PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 10 (2182) Год XLIII Беласток 8 сакавіка 1998 г. Цана 1 зл.



*Выступае хор імя Генадзя Цітовіча. Пра гала-канцэрт V Фестывалю „Беларуская песня '98" чытайце на стар. 5.*

## У нумары



# Чаромхаўскі пратэст

Уладзімір Сідарук

**Набліжаюцца выбары ў мясцовыя самаўрады. Некаторым хочацца скаламуціць ваду і пасварыць грамадства і дзеля гэтага прыдумоўваюць розныя фокусы, напрыклад, „чаромхаўскі пратэст".**

У сродках масавай інфармацыі бурліла ад сенсацыі: у Чаромсе пратэст!

„Nie ma miejsca dla TIRów... W Czeremsze jest ciasno i niebezpiecznie" — пісаў „Kurier Poranny", а „Gazeta Współczesna" канстатавала: „Mieszkańcy Czeremchy nie chcą niebezpiecznych TIRów". Вестка маланкава ўляцела ў Ваяводскую управу. Зварухнула ваяводу.

Старшыня ўправы Гміннай рады раздумваў над законачанай пабудовай ачышчальні сцёкаў, калі пазваніў тэлефон.

— Што там творыцца ў Чаромсе? — пачуўся голас у трубцы.

Чаромхаўскі чыноўнік, не разумеючы, аб чым ідзе гаворка, запытаў:

— А ў чым справа?

— Дэлегацыя з пратэстам да ваяводы прыехала.

— Аб якім пратэсце гаворыце?..

Калі войт прабаваў нешта тлумачыць свайму суразмоўцу, голас сціх. Размова абарвалася.

Незадоўга пасля гэтай размовы ў кабінеце старшыні Управы сядзела некалькі радных. Пачуўшы аб „пратэсце", прыйшлі ў гміну абсудзіць справу.

— Адкуль столькі шуму? — раздумвалі радныя. Адказ прыйшоў сам, калі пачалі абмяркоўваць апошнія падзеі мінулага года. Тады і зразумелі:

**хто каламуціць ваду?**

2 снежня 1997 г. чаромхаўская ячэйка Краёвай партыі пенсіянераў (KPEiR) паслала ў гміну ліст, у якім чытаем: „My, mieszkańcy Czeremchy, zwracamy się z prośbą o zakaz wjazdu pojazdów „TIR" do Czeremchy".

Сваё выступленне аўтары пісьма аргументавалі тым, што ў пасёлку вузкія вуліцы, без тратуараў. Дарогамі карыстаюцца дзеці, якія ідуць (і едуць на веласіпедах) у дзіцячы садок і школу. Шафёры аўтамабіляў не прытрымоўваюцца ліміту хуткасці і ствараюць небяспеку ў дарожным руху. Ад праязджаючых аўтафураў дрыжаць сцены прыдарожных дамоў, а ноччу прачынаюцца людзі. Выхлапным смуродам атручваюцца дзеці. Сваё выступленне KPEiR канчае фразай:

**„Dość już sierot i płaczu!"**

Управа Гміннай рады скрупулёзна разгледзела прашэнне. Старшыня рашыў, што будзе яно абмеркавана на найбліжэйшай сесіі ў прысутнасці аўтараў ліста.

Незалежна ад таго, 10 снежня 1997 года ліст быў пасланы гмінай у Ваяводскае аддзяленне інфраструктуры. У пісьме войт прасіў улічыць у план капітальнага будаўніцтва на 1998 год працяг распачатай пабудовы тратуара побач ваяводскай дарогі н-р 03890 на адрэзку Чаромха вёска — Чаромха пасёлак. У матывіроўцы прыводзяцца аргументы: небяспека ў дарожным руху на згаданай дарозе, пастулаты жыхароў пасёлка, а таксама недахоп фінансавых сродкаў у мясцовым бюджэце.

Асноўнай тэмай пасяджэння Гміннай рады ад 30 снежня 1997 г. было абмеркаванне ставак падаходнага падатку і іншых мясцовых аплатаў, і, пры нагодзе, уручэнне заслужаным пенсіянерам медалёў за грамадскую дзейнасць. Калі радныя спыніліся пры пункце „розныя справы", старшыня ГР пазнаёміў прысутных з лістом KPEiR да ваяводы ў справе прысваення Чаромсе гарадскіх правоў.

Пачалася дыскусія. Апрача войта выступілі: Анатоль Аніщчук, Славамір Багроўскі, Лявон Селях, Хведар Гапанюк, Мікалай Міхалюк і Галена Назарук. Радныя адмоўна аднесліся да прапановы. Калі далі слова лідэру партыі пенсіянераў, Зыгмунту Кастоўска-

[працяг ☞ 3]

# Мы прачыталі

*W Stanach Zjednoczonych w kancelariach prawniczych zatrudnionych jest prawie milion pracowników. Ta rzesza ludzi nie żyje bynajmniej z datków za obronę groźnych przestępców, ale ze spraw cywilnych, gdzie stawką są gigantyczne odszkodowania. Pod koniec ubiegłego roku jedna z amerykańskich linii lotniczych przegrała proces z dwójką cwanych prawników, którzy wmówili stewardesom, że poniosły dotkliwe straty na zdrowiu, wdychając dym tytoniowy z papierosów wypalanych przez pasażerów. Zasądzono trzysta sześćdziesiąt milionów odszkodowania, z czego „poszkodowane" stewardesy nie dostały nic. Kancelaria prawnicza wyszarpnęła 60 milionów — reszta zostanie przekazana na zwalczanie nałogu nikotynowego. O co w tym wszystkim chodzi? Ludowa mądrość podpowiada, że jeżeli nie wiadomo, o co chodzi, to zawsze chodzi o pieniądze. Sztuka polega na tym, by skierować je do własnej kiszeni.*

*Kurier Poranny, nr 38*

* * *

*Liczba urodzin w Polsce spada z roku na rok. W minionym roku urodziło się w Polsce 412 tys. dzieci — o 40% mniej niż w szczycie ostatniego wyżu demograficznego (1983 r.). Problem tkwi nie w tym, że kobiety nie chcą rodzić, ale w tym, że nie mają warunków do wychowywania dzieci. Zasiłek jest śmiesznie niski. Opieka nad rodziną prawie żadna.*

*Polityka, nr 7*

Выснова з гэтага такая: камуністы валі сапраўдную прасямейную палітыку, якую ад дзесяці гадоў хочуць весці ўсе саліднарніцкія ўрады. Чамусьці ім гэта не ўдаецца. Магчыма, ксяндзы перашкаджаюць. Зразумела — сваім прыкладам, не маючы афіцыйна ні жонак, ні дзяцей.

* * *

*W ostatnich latach zabito w Rosji ponad stu dziennikarzy. Żaden z przypadków nie został do tej pory wyjaśniony. 20 dziennikarzy zginęło w Czeczenii, z czego połowę zabili rosyjscy żołnierze. Żyrinowski, który czynnie zaatakował dziennikarkę telewizyjną Julię Olszańską, jest bezkarny. Prokuratura już kilkakrotnie umorzyła postępowanie „z braku dowodów winy", mimo iż dysponowała taśmami wideo, gdzie było wyraźnie widać jak bił i obrażał dziennikarzy. Władza nic mu nie zrobi, gdyż jest jej potrzebny,* — піша рускі журналіст Алег Панфілаў.

*Gazeta Wyborcza, nr 39*

* * *

*Problemem w państwie przechodzącym od socjalizmu do gospodarki rynkowej są stosunki własnościowe. Dawniej wszystko było państwowe, a teraz ma przejść w ręce prywatne. To oczywiście bardzo piękne i pożyteczne, ale skoro ma przejść w ręce prywatne, to konkretnie w czyje? Odpowiedź na to pytanie nie jest jasna, lecz jest ona osią, wokół której toczą się konflikty polityczne w Polsce — wojna na górze, upadek rządu Olszewskiego, upadek rządu Suchockiej, kampania prezydencka 1995 r., powstanie ROP i AWS. Polska to ogromny, bezpański dotąd majątek i cały czas idzie o to w czyje ręce on trafi. Tak naprawdę celem „Solidarności" jest aneks do umowy okrągłego stołu. Jeśli ten cel zostanie zrealizowany, to działacze, krytykujący dotąd ten układ, zaczną go żarliwie chwalić, w myśl zasady „jeżeli nie możesz ich pokonać — przyłącz się do nich".*

*Polityka, nr 7*

* * *

*Pomoc Zachodu dla Rosji przekroczyła, jak dotąd, 130 milionów dolarów. Wyniosła więc kilka razy więcej, niż amerykańskie nakłady po wojnie na całą Europę. A żadnych efektów nie widać. Jedynie była komunistyczna nomenklatura stanęła na nogi, tym razem jako prywatni przedsiębiorcy. Połowa zachodnich pieniędzy wróciła do zachodnich banków, na prywatne konta rosyjskich elit. Ci ludzie wolą nie ryzykować inwestowania pieniędzy we własnym kraju.*

*Kurier Poranny, nr 38*

* * *

*Захаванне і ўмацаванне Беларусі, як дзяржавы, зноў жа аб'ектыўна ў інтарэсах і ўладаў, і апазіцыі. Гэта хутчэй аксіёма. Без Беларусі і адны, і другія адразу могуць перштварыцца ў палітычныя зданi.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 5*

Апазіцыя, па волі ўладаў, здаўна выступае ў такой ролі, каб прынамсі ўлада была беларуская!.. Але ў гэтым шмат хто сумняваецца.

* * *

*Вынікамі візіту прэзідэнта Беларусі ў Югаславію задаволены абодва бакі. Перагаворы з прэзідэнтам Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Слабаданам Мілошавічам адбыліся ў дружалюбнай атмасферы.*

*Звязда, н-р 23*

Цешыць нас, што прэзідэнты двух найбольш славянскіх краін палюбілі адзін аднаго. Усюды яднаюцца браты-славяне.

* * *

*Почему мы так не любим друг друга? Возможно, это от нашего долгого, легендарного коллективизма: коммунальных квартир, толканий в очередях и общественном транспорте. А возможно, даже погодные условия виноваты: солнца маловато, тепла и пейзаж однообразный, не темпераментный, что ли. Не знаю, но только скупы мы на приветливые улыбки. На почте девушка в окошке вздыхает так утомлено: „Как вы мне все надоели!.." И столько чувства вложено в ее уста, столько раздражения...*

*Народная газета, н-р 24*

Всему, наверно, виновата погода. Не волнуйтесь, товарищи!

# З мінулага тыдня

**Эканамічны камітэт Рады Міністраў** заклікаў міністэрствы ўнутраных і замежных спраў палегчыць працэдуру перасячэння граніцы грамадзянамі Расеі і Беларусі. Віцэ-прэм'ер, міністр фінансаў **Лешак Бальцаровіч** паведаміў, што ўрад мае намер захаваць бязвізавы рэжым для грамадзян гэтых краін. Паводле ўрадавых даных, у выніку прынятых мер па ўзмацненні жорсткасці пагранічна-прапускнога рэжыму аб'ём гандлёвых аперацый у студзені знізіўся амаль на палавіну ў параўнанні са студзенем 1997 года.

**Кшыштоф Пэндэрэцкі** (за выдатныя дасягненні ў галіне сакральнай музыкі) і архімандрыт **Матфей** (дырыжор хору Троіцка-Сергіеўскай лаўры) сталі лаўрэатамі мінулагодніх прэмій імя Канстанціна Астрожскага, якія ўжо дзевяць год прысуджае штомесячнік „Przegląd Prawosławny".

**У „Бельмлеку"** — малочнатаварным кааператыве ў Бельску-Падляшскім была здадзена ў карыстанне новая тэхналагічная лінія па вытворчасці сыроў, магутнасцю 5 тон гэтага прадукту ў суткі. Да гэтай пары кааператыў выпускаў сухое малако і масла. Дзякуючы новай інвестыцыі асартымент тавараў павялічыцца на сыры „Гоўда", „Эдамскі" і „Салямі".

**VI Турыстычны кірмаш** „Актыўныя канікулы '98" адбыўся ў Беластоку. Наведвальнікам кірмашу турыстычныя фірмы прапанавалі адпачынак у агратурыстычных гаспадарках, экскурсіі па яўрэйскім, татарскім і праваслаўным маршрутах ды паездкі ў экзатычныя краіны.

**Gallux Show** — кірмаш тканін, вопраткі і абутку прыцягнуў у Беласток 65 фірм з Польшчы і Беларусі. Паводле **Пятра Каралёва** з Гродзенскай прамыслова-гандлёвай палаты, абмежаванні пры перасячэнні польскай мяжы ўдарылі перш за ўсё ў дробных вытворцаў і гандляроў. Раней былі яны зацікаўлены кантактамі з Польшчай, цяпер пытаюцца пра ўмовы гаспадарчых кантактаў са Славаччынай і Чэхіяй. Беларусь з гэтымі краінамі мае падпісаную дамову аб бязвізавым гранічным руху.

**Кіраўнікі малочных заводаў** Ломжынскага ваяводства з непакоем глядзяць на вынікі закрыцця заходнееўрапейскіх рынкаў для айчынных вырабаў гэтай галіны вытворчасці. На іх думку, дыпламатычная і гаспадарчая актыўнасць урада павінна быць накіравана на ёмісты ўсходні рынак.

**20 кг аміяку** пранікла ў атмасферу ў выніку аварыі на прамысловым халадзільніку ў Беластоку, а **300 кг прапанубутану** выцякла з няшчыльнай цыстэрны на чыгуначнай станцыі ў Кузніцы-Беластоцкай у другой палове лютага г.г. На шчасце ні людзі, ні навакольнае асяроддзе ад аварый не пацярпелі. На Беласточчыне працуе 66 прадпрыемстваў, якія распараджаюцца вялікімі запасамі атрутных рэчываў, у тым ліку хлору (62 тоны) і аміяку (160 тон). Гэтыя заводы могуць стаць прычынай забруджання асяроддзя. Абсталяваннем з аміякам карыстаюцца мясакамбінат і абодва прамысловыя халадзільнікі ў Беластоку ды прадпрыемства „Гортэкс" у Сямятычах, а хлор прымяняюць водаправоднае прадпрыемства ў Беластоку і паліўныя склады ЦПН у Беластоку, Саколцы, Валілах і Нараўцы.

**У польскіх турмах** і следчых ізалятарах, паводле даных на 31 студзеня г.г., прабываў 1251 чужаземец з 59 краін свету. У ліку прыгавораных і часова арыштаваных найбольш украінцаў — 424, беларусаў — 244 і расіян — 146. За кратамі сядзяць таксама паасобныя прадстаўнікі, між іншым, Анголы, Даніі, Канады, Кіргізстана і Швейцарыі.

# Весткі з Беларусі

**АБСЕ ў Менску**

Афіцыйнае адкрыццё прадстаўніцтва Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Менску адбылося 27 лютага. У цырымоніі прыняў удзел старшыня АБСЕ, міністр замежных спраў Польшчы Бранiслаў Герэмэк. Група АБСЕ, тры з пяці членаў якой прыбылі ў Менск 6 лютага, практычна пачала работу. Гэта прадстаўнікі Германіі, Швейцарыі і Румыніі. На працу сакавіка чакаецца прыбыццё астатніх членаў групы — прадстаўнікоў Даніі і ЗША.

**Чарговы арышт**

11 лютага быў арыштаваны і пасаджаны ў следчы ізалятар адзін з найбуйнейшых прадпрымальнікаў Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета XIII склікання Андрэй Клімаў. Затрыманаму інкрымінуецца пабудова некалькіх дамоў без наяўнасці ліцэнзіі (у адным доме — па вул. Лодачнай 7 у Менску — мае пасяліцца прэзідэнцкая адміністрацыя). У выніку вобыску былі канфіскаваны тэлевізар і радыёапаратура, а на маёмасць накладзены арышт. Пасля рэферэндуму 1996 года Клімаў актыўна супрацоўнічаў у складзе спецыяльнай камісіі Вярхоўнага Савета на чале з Віктарам Ганчаром, падпісаў заключэнне камісіі аб наяўнасці ў дзеяннях Аляксандра Лукашэнкі прыкмет злачынства і з патрабаваннем імпічменту.

**Прадпрымальніцкі форум**

У Менску адбыўся VI З'езд Беларускага саюза прадпрымальнікаў. Традыцыйна ён разглядзеў дасягненні арганізацыі за апошнія гады, абраў новае кіраўніцтва, абмеркаваў набалелыя праблемы прадпрымальніцтва ў рэгіёнах краіны з улікам канкрэтных эканамічна-сацыяльных умоў. У пачатку мінулага года беларускае прадпрымальніцтва налічвала больш як 220 тысяч фізічных і юрыдычных асоб. Перарэгістрацыя фірмаў выдатна паменшыла іх колькасць.

**Удар па бізнесменах**

Брэсцкія прадпрымальнікі, якія займаліся рээкспартам прывезеных з Польшчы тавараў у Расею, пацярпелі не толькі ад абмежаванняў пры перасячэнні польскай граніцы. Хаця Беларусь і Расея заключылі мытны саюз, растаможаныя ў Беларусі польскія тавары Расіяй не прызнаюцца і трэба паўторна за іх плаціць пошліну. Затое тавары растаможаныя ў Расеі свабодна пранікаюць у Беларусь. На думку прадпрымальнікаў, паміж Беларуссю і Расеяй рэальна няма мытнага саюза, а толькі нейкая мытная прастора. У выніку дзеянняў акрэсленых расейскіх груп, насуперак мытнага пагаднення падпісанага прэзідэнтамі абедзвюх краін, расейская таможня прыняла рашэнне аб паўторным растаможванні тавараў, якія паступаюць з Беларусі. Афіцыйна аб гэтым чамусьці не гаворыцца, хаця рашэнне расейскай мытні моцна ўдарыла па сярэднім і буйным беларускім бізнесе, а ў выніку і па бюджэце краіны.

**Астанкі класіка**

Праблема перапахавання Максіма Багдановіча ўзнікла даўно і зараз зноў узнята ў Беларусі. Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп паведаміў, што існуюць два асноўныя пункты гледжання на яе вырашэнне. Прыхільнікі першага лічаць неабходным перавезці астанкі класіка з ялцінскай магілы ў Менск і пахаваць на Вайсковых могілках паміж магіламі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Існуе і другі падыход да праблемы — на магіле Багдановіча ў Ялце ўстанавіць новы помнік. Але ў сувязі з гэтай прапановай адразу ж узнікае яшчэ адна праблема — няма дакладных доказаў, што ў той магіле сапраўды ляжаць астанкі Максіма Багдановіча.

**Рост за кошт крэдытаў**

У прадстаўніцтве Міжнароднага валютнага фонду ў Беларусі прайшла сустрэча з журналістамі. Яе правёў кіраўнік місіі МВФ Рычард Хаас, які прадставіў вынікі апошніх перагавораў з урадам рэспублікі. Адным са становых паказчыкаў стаў рост унутранага валавога прадукту. Аднак рост гэты падаграваўся толькі выдачай крэдытаў. Узрастанне крэдыту ў сваю чаргу падштурхнула да росту грашовай масы і інфляцыі. Падчас брыфінгу былі прадстаўлены два сцэнары развіцця эканомікі Беларусі ў 1998 годзе, якія прапаноўваюць эксперты МВФ.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Валодзя Парфянюк — майстар цунамі з Варшавы.
- Гайнаўскія валейбалісты сталі чэмпіёнамі ваяводства.
- Белае возера лішняга малака.

# Чаромхаўскі пратэст

[1 ☞ працяг]

му, той, не сказаўшы ні слова, пакінуў залу. З увагі на адсутнасць прадстаўнікоў партыі пенсіянераў, старшыня ГР рашыў не ставіць пад абмеркаванне другое выступленне KPEiR у справе спынення ўезду аўтафураў у Чаромху.

**Такое рашэнне**

было на руку спадару Кастоўскаму. Выступленне падпісанае жыхарамі пасёлка лідэр KPEiR пакуль захаваў як свой козыр для рэалізацыі асабістых планаў.

А планы спадар Кастоўскі быў меў амбітныя: пры дапамозе сваёй партыі, знаёмых і сябрукоў надумаўся выйграць выбары ў гмінны самаўрад, з Чаромхі „зрабіць" горад, а самому сесці ў крэсла бурмістра. Удар, які атрымаў на сесіі, прымусіў яго прызямліцца, аднак не паўстрымаў ад рэалізацыі ранейшых планаў. Рашыў далей „дзейнічаць". І тут выцягнуў „свой козыр" — неразглежанае выступленне ў справе аўтафураў TIR, падпісанае 59 чарамшукамі, якое і называецца „пратэстам".

Улічваючы першую няўдачу, інстынкт самазахавання падказваў спадару Кастоўскаму дзейнічаць асцярожна. Не атрымаўшы падтрымкі радных, лідэру партыі пенсіянераў стала ясна, што не можа ён разлічваць на зразуменне ў мясцовай грамадскасці. Таму

**чарговы спектакль**

рашыў разыграць пры дапамозе сродкаў масавай інфармацыі.

У канцы снежня мінулага года паслаў ён ліст у рэдакцыю „Kuriera Porannego", які зараз жа друкуюць у рубрыцы „Poczta Kuriera". І хоць пісьмо было падпісана „прозвішча і адрас да ведама рэдакцыі", а аўтар выступаў як „пастаянны чытач", большасць чарамшукоў здагадалася, што ліст гэты — справа спадара З. Кастоўскага.

У сваім лісце аўтар сцвердзіў, што *Чэрэмха, то не весь*. Тут знаходзяцца многія прадпрыемствы і ўстановы. Як чыгуначны цэнтр, Чаромха спалучае *всхуд з заходэм і пулноц з полуднем*. Яна так разбудаваная, што спалучаецца ў адзін архітэктурны комплекс з навакольнымі вёскамі: Ставішчамі, Кузавай і Чаромхай (вёскай). Таму мае амбіцыю стаць горадам. Толькі мясцовы самаўрад гэтаму супраціўляецца. Бо войт жыве ў Гайнаўцы і не хоча мець лішніх клопатаў. „Лепш браць вялікую зарплату і нічога не рабіць", — пісаў „сталы чытач", — чым праяўляць клопат аб справах грамадства. А радныя таксама не думаюць. „Скачуць як паяцы", калі войт за нітачку пацягне. Бяруць толькі высокія камандзіровачныя за прысутнасць на сесіях.

Далей аўтар ліста жаліўся, што яго выступленне да ваяводы ў справе гарадскіх праваў для Чаромхі войт зразу адкінуў на сесіі. Таму „чытач" пісьмо свае завяршыў рэфлексіяй: „Uważamy, że wiosenne wybory do nowych Rad Gmin obudzą obecnych radnych do aktywniejszego reprezentowania spraw swych wyborców i Czeremcha przestanie być „czy to miasto, czy to wieś". Рыба клюнула. Журналісты ў лісце „свайго чытача" знайшлі тое, што называецца сенсацыяй. На працягу двух дзён „кармілі" чытачоў выдуманай гісторыяй аб „чаромхаўскім пратэсце". А калі зразумелі, што факты супярэчаць сабе, у публікацыі „Wilk syty i owca cała" сцвердзілі: „Mieszkańcy Czeremchy otrzymali obietnicę rozważenia sprawy wycofania TIR-ów". Значыцца, толькі

**вясковы сход**

можа праблему вырашыць. І такі сход адбыўся ў мясцовым асяродку культуры 9 лютага г.г.

Даўно я не бачыў такой аўдыторыі. Мужчыны і жанчыны, пенсіянеры і работнікі, жыхары пасёлка і навакольных вёсак прыйшлі ў клуб, каб абсудзіць справу „пратэста" (паведамленне аб гэтым сходзе намнога раней пайшло ў народ).

Першым выступіў начальнік Чаромхаўскага аддзялення Мытнай службы Міхал Маркевіч, які расказаў прысутным, на якой аснове працуе іхняя ўстанова, колькі аўтафураў TIR адпраўляецца ў адзін дзень і што можа чакаць Чаромху, калі спыніцца праца мытнікаў і закрыюцца пагранічныя пункты (дарожны і чыгуначны).

— Нельга дапусціць да таго! Ніякіх абмежаванняў для аўтамабіляў! — гаварылі ўдзельнікі дыскусіі. Абазначала б гэта самагубства і скарачэнне новых месцаў працы для жыхароў пасёлка.

У тым месцы былі крытычныя заўвагі ў адрас мясцовага самаўрада і начальніка чаромхаўскіх мытнікаў.

— Чаму мясцовых не прымаецца на працу, толькі людзей з Гайнаўкі ці Бельска? — пачуўся голас з залы. — Мытнікі з Бельска робяць суматоху і хочуць перанесці адпраўку TIRаў у Бельск, бо там будуць мець працу на месцы!

На гэтую тэму выказаўся працаўнік шпалапрапітнага завода Тамаш Сасноўскі.

— У паўднёвай частцы краіны жыве мой брат, — гаварыў ён, — гэта прыгранічная тэрыторыя. Там няма беспрацоўя. І ў нас таксама можа не быць. Толькі трэба дбаць пра тое, трэба мадэрнізаваць як мага хутчэй дарогу...

Жыхары з вуліцы 1 Мая „дабіваліся" аднак спыніць уезд TIRам.

— Мы найбольш гэта адчуваем, — гаварыла жанчына, — бо каля нас яны ездзяць. Ад іхняга груку сцены ў маёй хаце дрыжаць. Уначы спаць не магу...

У адказ працаўніца чыгункі заявіла:

— Ад многіх гадоў працую на пераездзе, дзе закрываю шлагбаўмы. Ніколі не бачыла, каб уначы ездзілі TIRы. Гэта хлусня і выдумка...

— Чаму няма прозвішчаў, толькі неразборлівыя подпісы пад пратэстам? — раздаўся голас з залы. — Самі могуць за дзесяцёх левай рукой падпісваць...

Былі пытанні ў адрас паліцыі.

— Колькі выпадкаў зрабілі шафёры TIRаў?

Адказаў камендант раённай паліцыі:

— Мы не дзелім катастроф паводле таго, хто іх зрабіў. Аднак, як памятаю, у мінулым годзе толькі адзін выпадак на шэсць катастроф, быў смяротны.

На чаромхаўскім сходзе прысутнічала 157 чалавек (былі і такія, якія не запісаліся ў спісак). У дыскусіі прыняло ўдзел 17 прамоўцаў, з чаго 2 было супраць, апошнія 15 за хуткай мадэрнізацыяй вуліцы 1 Мая. Ніякіх абмежаванняў для аўтамабіляў — апрача таго, каб паменшыць хуткасць на гэтым адрэзку да 40 км у гадзіну.

Прысутныя не адобрылі прапанову рэферэндуму як і яўнага галасавання над праблемай TIRаў.

Кампраміс, да якога дайшлі жыхары Чаромхі з прадстаўнікамі мясцовага самаўрада, раённымі і ваяводскімі ўладамі адносна хуткай мадэрнізацыі чаромхаўскіх вуліц, задаволіў усіх. Так вось закончыўся чаромхаўскі пратэст.

**Уладзімір Сідарук**

# Проста солтыс

**Каля 10 км на паўднёвы захад ад Орлі раскінулася вёска Дыдулі. Грамадска-гаспадарчыя змены ў краіне ў асаблівы спосаб паўплывалі на гэту адну з большых вёсак у Арлянскай гміне. Аб жыцці і садзейнні з Гмінай управай расказвае солтыс Мікалай ГРЫГАРУК. Гэты 49-гадовы добразычлівы і гасцінны чалавек з'яўляецца другім у гміне солтысам па колькасці гадоў знаходжання на гэтай адказнай грамадскай пасадзе.**



*Солтыс Мікалай Грыгарок і Ніна Дудэк.*

— Абавязкі солтыса выконваю ўжо 15 гадоў, а гэта паказвае, што вяскоўцы мне давяраюць. Вёска Дыдулі разам з суседнім ПГРам налічвае 220 жыхароў. У самой вёсцы дзяцей мала, затое ў ПГРы — цэлы аўтобус. На гаспадарцы займаюцца 30 сялян, але толькі 8 гаспадароў можна залічыць да маладых. Астатнія — гэта пенсіянеры, якія дакладаюць да гаспадарак са сваіх пенсій. Буйным і прыкладным земляробам з'яўляецца Антон Голуб, у якога на панадворку ёсць свая *злеўня* малака і сіласы для збожжа. Пяць гадоў таму праклалі ў нас водаправод. У вёсцы ўжо пяць дамоў пустуюць — старыя памерлі, маладыя выехалі і няма каму апекавацца апусцелымі будынкамі. Самае складаная сітуацыя ў жыхароў ПРГаўскага пасёлка. Пры ПГРы ўсе мелі працу, а з момантам пераходу гэтай гаспадаркі ва ўладанне арлянскага СКРа работу атрымала толькі некалькі асоб. Астатнія застаюцца беспрацоўнымі. Калі абое бацькі не працуюць, а ёсць у іх дзеці, прымушаны яны карыстацца фондамі Гміннага асяродка грамадскай дапамогі. Пасля закрыцця школы ў Красным Сяле 30 дзетак з ПГРаўскага пасёлка davозяць у Маліннікі, дзякуючы чаму ёсць падстава для функцыянавання тамашняй школы.

Гаспадарым мы з жонкаю на 15 гектарах, маем свой трактар і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Дзве нашы дачкі дарослыя. Адна ўжо замужам, маем і ўнучку. На працягу дваццаці гадоў быў у мяне пункт скупкі трусакалак — работа гэта добрая, але ў сезоне няма калі спаць і таму ў гэтым годзе я адмовіўся займацца скупкай. У вёсцы і наваколлі людзі жывуць галоўным чынам з малака і трускалак. Напрыклад, Ніна Дудэк мае аднагектарную плантацыю трускалак, а на агародзе вырошчвае буйную гародніну.

Нашым радным з'яўляецца Міхал Таранта з суседніх Алекшаў. Колішняя ГСаўская крама перайшла ў прыватныя рукі. Праца солтыса патрабуе частых кантактаў з аднасельчанамі, размоў. Часам трэба людзям штосьці падказаць, параіць. Наша вёска ўключылася ў акцыю дапамогі пацярпеўшым ад паводкі. Сабралі мы 600 зл., а найбольшы ўзнос зрабіў прадаўшчык Ян Лабацюк, які ахвяраваў 500 зл. Солтыс працуе амаль дарма. Атрымоўваю я толькі правізію ад сабраных мною падаткаў. Калі нехта занясе падатак у гмінную касу, тады правізіі ад гэтай сумы не атрымоўваю. У маёй хаце ёсць адзіны ў вёсцы тэлефон.

Цяпер на пасяджэнні Гміннай рады солтысаў не запрашаюць і мы, прадстаўнікі вёсак, не маем аператыўнай інфармацыі аб тым, што дзеецца ў гміне. А гміна таксама не мае ад нас інфармацыі аб праблемах вёскі. Калісьці начальнік гміны запрашаў солтысаў на сесіі і мы добра ўспамінаем гэтае супрацоўніцтва і гэтыя часы...

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Пошта рамантуецца, тэлефоны памяняліся

Памяшканне пошты ў Белавежы патрабавала капітальнага рамонту ўжо даўно. І вось, 16 лютага г.г. ён урэшце распачаўся! Пошта была вымушана перанесціся на гэты час у іншае памяшканне, у будынак, дзе змяшчаецца бюро Гміннага кааператыва „Сялянская самадапамога", што па вул. Вашкевіча, 22. Умовы працы тут дрэнныя і белавежцы гэтым незадаволены, не гаворачы ўжо аб турыстах. Прыйдзецца ўсім нам нейкія два ці тры месяцы прамучыцца.

У апошні час памяняўся крыху і састаў працоўнага калектыву белавежскай пошты. З надыходам новага года на пенсію пайшлі шматгадовыя працаўнікі: начальнік пошты Баляслаў Кучко, інспектар Галена Хвыць і працаўніца пасылковага акенца Зінаіда Валкавыцкая.

Змены наступілі і ў тэлефоннай сувязі. Ноччу з 14 на 15 лютага г.г. у Белавежы абавязваюць ужо сямізначныя нумары тэлефонаў (дагэтуль белавежцы карысталіся трохзначнымі). Калі хто зараз захоча пазваніць у Белавежу, павінен набраць перад ранейшым трохзначным нумарам яшчэ: 6812. Тэлефонны код у Белавежу з-па-за межаў Беластоцкага ваяводства: 085.

У мінулым годзе з Гайнаўкі ў Белавежу пачалі пракладаць святлаводны кабель, дзякуючы чаму ўжо неўзабаве ў мястэчку можна будзе падключыць да цэнтральнай тэлефоннай станцыі 300 новых нумароў. Зараз у Белавежы каля 600 абанентаў.

**Пётр Байко**

# Хвароба беларускага школьніцтва

Сёння амаль усе меншасці ў Польшчы, якія яшчэ заяўляюць пра сваю прысутнасць у культурным краявідзе краіны, маюць сваё школьніцтва. Асветныя ўстановы з роднай мовай навучання маюць літоўцы, украінцы, немцы, славакі. Выключэннем з'яўляюцца беларусы, якія канчаткова адракліся ад свае роднай мовы ў школах недзе на пачатку сямідзесятых гадоў. Шмат хто прашэнне бэгэкатоўскіх дзеячаў аб ліквідацыі школьніцтва з роднай мовай навучання на пачатку сямідзесятых гадоў тлумачыць ціскам з боку партыйна-адміністрацыйнага апарату. Але такую самую палітыку, той жа апарат, праводзіў у адносінах да іншых нацыянальных меншасцей. З другога боку апраўдоўвае тагачасных нашых правадыроў тое, што ў сапраўднасці выступалі яны ад імя нашага люду, які шчыра, так як і цяпер, не пераносіў сваёй роднай мовы. Спачуваю паэтам, якія пішуць пра ўсенародную любоў да роднай мовы.

Гісторыя фарміравання нацыянальнай псіхалогіі беларусаў даволі доўгая і складаная. Пачуццё горшасці, якое тлумачыцца сацыяльным станам нашых продкаў, не дае адказу на пытанне, чаму адракаліся яны ад беларускасці нават тады, калі самі магլі акрэсліць сваё эканамічнае, палітычнае ці грамадскае становішча. Да сямідзесятых гадоў паловай Беласточчыны кіравалі „нашы хлопцы", аднак будучы пры ўладзе для беларускасці нічога яны не зрабілі. Наадварот, пасля падзення сталінскай сістэмы не выконвалі нават тых загадаў у галіне нацыянальнай палітыкі, якія ставілі для іх варшаўскія таварышы. У 1957 годзе разглядалася, між іншым, увядзенне беларускай мовы ва ўжытак павятовай адміністрацыі на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны, прапанавалася шырокае яе выкарыстанне ў працы мясцовай куратарыі, дэмакратызацыю БГКТ. „Нашы хлопцы" зрабілі ўсё, каб так не сталася.

Беларускасць нашым людам успрымалася не як нешта горшае, але як нейкае парушэнне права, штосьці немаральнае, што трэба прыхаваць, каб не быць заклеймаваным. Беларуская мова ці гэта ў тралейбусе ў Менску, ці нават каля царквы ў Беластоку выклікае падобныя нервовыя рэакцыі тых, якіх дэмографы лічаць беларусамі. Немагчыма растлумачыць паляку, чаму дзед з бабаю да сваіх унукаў у вёсцы стараюцца гаварыць на польскай мове, якой, дарэчы, самі добра не валодаюць. Немагчыма за такі стан абвінавачваць толькі чужыя рэжымы. Свабода, у выпадку беларусаў, не адкрывала дарогі да развіцця школьніцтва з роднай мовай навучання. У школьным годзе 1953/1954 на Беласточчыне была 71 школа з беларускай мовай навучання і 90, у якіх гэтая мова навучалася як адзін з прадметаў. Немцы, яўрэі, славакі пасылалі сваіх дзяцей выключна ў школы са сваімі роднымі мовамі. Немцы мелі тады 140 такіх асветных устаноў. Не было школ з украінскай мовай навучання, было толькі 18 школ, у якіх гэтая мова навучалася як прадмет. Калі ў 1955 годзе павеяла свабодай, беларусы кінуліся ліквідаваць свае школы. Кожны год паменшвалася іх колькасць. На працягу трох гадоў, па волі бацькоў, была ліквідавана 21 школа. Толькі становчае супрацьдзеянне з боку цэнтральных улад Польшчы паўстрымала гэты механізм самазнішчэння беларускасці. Іншыя меншасці дамагаліся тады стварэння новых устаноў, у якіх яны маглі б выхоўваць сваіх дзяцей у пачуцці пашаны да ўласнай мовы і культуры.

Ніводзін лекар не вылечыць хворага, калі ён сам не захоча стаць здаровым. Так было і з беларускім школьніцтвам. У шасцідзесятых гадах пастаянна ліквідаваліся чарговыя беларускія школы. На іх месцы ўзнікалі польскія, у якіх захоўваўся толькі прадмет беларускай мовы. Неўзабаве і гэты прадмет стаў неабавязковым, а само навучанне стала толькі сімвалічным. У тым часе памянялася дзяржаўная палітыка. У шасцідзесятых гадах партыйны апарат падтрымоўваў ужо кожнае дзеянне, накіраванае на развал беларускага школьніцтва. Стан агульнай задаволенасці наступіў у сямідзесятыя гады, калі ў выніку асветных рэформ закрылася апошняя беларуская школа. Шчаслівыя сталі „нашы хлопцы", якія разам з польскімі калегамі паспяхова рэалізавалі палітыку пабудовы „маральна-палітычнай еднасці польскага народа", шчаслівыя сталі дырэктары школ, бо не мусілі чырванець падчас куратарыйных нарадаў за тое, што ўзначальваюць няслушныя школы. Задаволеная была, пэўна, большасць бацькоў, дзеці якіх перасталі вывучаць геаграфію ці матэматыку на „мужыцкай" мове. Ніхто не пратэставаў супраць ліквідацыі беларускага школьніцтва, ніхто не дамагаўся адукацыі для сваіх дзяцей на роднай мове. Задаволеная такім ходам падзей напэўна былі нашы дзеячы, якія ў 1971 паслалі ліст міністру асветы з патрабаваннем польскіх школ для беларускіх дзетак. Улада была „народная" і волю свайго люду ахвотна выканала.

Нядрэнна і без сваіх школ жыве наша грамадства. Штодзень у большасці як палякі, часам здараецца быць імі праваслаўнымі, рускімі, славянамі, украінцамі. Некалькі дзесяткаў тысяч чалавек адчуваюць яшчэ сябе беларусамі. Аднак гэтая беларускасць не закаранелая ў сваёй гісторыі, нацыянальнай традыцыі, культуры, хутчэй за ўсё гэта нацыянальнасць савецкага кшталту. Без свае школы, у акружэнні чужой культуры, цяжка было б праіснаваць нават моцнай нацыі.

**Яўген Міраловіч**

# Няма цікаўнасці да Беларусі

**Гутарка з прафесарам Джэймсам ДЫНГЛІ з Лондана**

***— Вы адзін з нешматлікіх беларусаведаў з Вялікабрытаніі дый наогул на Захадзе. Вы даследавалі беларускую праблематыку ў вельмі неспрыяльны час, калі Беларусь была часткай Савецкага Саюза і мала хто ў свеце пра яе чуў. Цяпер Беларусь — незалежная краіна. Ці выклікала гэта рост цікаўнасці да беларушчыны ў Вялікабрытаніі?***

— На жаль, ніякай цікаўнасці не відаць. Усе цікавяцца толькі Расіяй. Вось я выкладаў гісторыю славянскіх моў у Школе славянскіх і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Лонданскага ўніверсітэта, але адаслалі мяне на пенсію ў 55 гадоў. У нас ёсць магчымасць ісці на пенсію ў такім узросце, але практычна гэта скарачэнне.

Ёсць пэўная цікаўнасць да Украіны, але ўкраінская праблематыка вывучаецца выключна з гледзішча паліталогіі.

***— У Вялікабрытаніі існаваў узорны асяродак беларускай эміграцыі, якая змагла прыцягнуць і карэнных брытанцаў, як Вы самі: Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі, Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны, Англа-беларускае таварыства. Шмат хто з беларусаў Беласточчыны карыстаўся іх гасцінай, у тым ліку і я. Цяпер гэтыя кантакты нейк парваліся.***

— „Скарынінка" трымаецца, хаця айцу Аляксандру Надсану цяжка ўжо яе весці. Памёр шматгадовы старшыня ЗБВ Янка Міхалюк, следам за ім пайшлі і наступны старшыня Алесь Зданковіч, і скарбнік Павел Асіповіч. Нейкі час старшынёй быў Васіль Еўдакімаў, новы эмігрант, адвакат са сваёй практыкай у Лондане. Хаця ён і беларускамоўны, палічылі яго несвядомым і ў рэшце рэшт выкінулі. Цяпер старшынствуе Алена Міхалюк, але ж заступіць нябожчыка мужа ёй не пад сілу.

***— Вы былі старшынёй Англа-беларускага таварыства, якое выдавала салідны „Журнал беларускіх даследаванняў" на англійскай мове...***

— Я перадаў старшынства Гаю Пікарду, бо не бачыў сэнсу існавання гэтай арганізацыі. Я хацеў ладзіць даклады ва ўніверсітэце, а не ў „Скарынінцы", куды людзі прыходзілі дзеля добрай ежы.

Журнал спыніў свой выхад. Мы з Арнольдам Макмілінам выдалі адзін нумар „ Аказіяльныя выданні па беларускіх даследаваннях" на англійскай мове як выданне Школы. Другі нумар атрымаецца беларускамоўны, бо няма каму перакладаць артыкулы на англійскую мову. Сёння ўсё каштуе.

***— Няўжо ўсё набліжаецца да ўпадку?***

— Стварылася новая арганізацыя, Брытанска-беларускае таварыства. Яе ўзначаліў брытанскі бізнесмен Крыс Мур. Неафіцыйна за новым Таварыствам стаіць беларускі пасол. Крыс Мур за тым, каб нічога палітычнага не рабіць. З культурнага гледзішча можна шмат зрабіць з падтрымкай пасольства, таму я лічу кантакты з афіцыйным Мінскам патрэбнымі ды ўвайшоў у гэтую арганізацыю.

***— А якія добрыя багі прывялі Вас у Беласток?***

— Даўно тут не быў, дык вырашыў наведаць сяброў і навуковыя ўстановы. Прапануюць мне тут застацца, але яшчэ рана пра гэта гаварыць.

***— Будзем спадзявацца, што рашэнне будзе на карысць Беластока.***

**Гутарыў Алег Латышонак**

# Таможная навінка

У чацвер 19 лютага беластоцкая Таможная ўправа наладзіла прэс-канферэнцыю на тэму новых прынцыпаў дакументацыі бяспошліннага перавозу пры шматразовых перасячэннях польскай мяжы. Дагэтуль такі перавоз дакументаваўся пячаткаю ў пашпарце. Цяпер жа ўводзяцца дэкларацыі, у якіх падарожнік, запісаўшы сваё імя і прозвішча ды нумар асабістага дакумента, будзе прызнавацца, колькі спіртнога, віна, піва і тытунёвых вырабаў перавозіць ён праз граніцу. Даныя з гэтых дэкларацый будуць уводзіцца ў камп'ютэры ўправы і пасля календарнага месяца будуць сумавацца для кожнага турыста. І калі такі месячны „імпарт" перавысіць дапушчальную індывідуальную норму, тады супраць тае асобы будзе прад'яўляцца штрафна-казначэйскі іск. За гэтага роду кантрабанду прадбачваюцца суровыя кары: да дзесяцікратнай вартасці пошліны, пазбаўленне свабоды да пяці гадоў і штрафное спагнанне да пяці мільёнаў злотых плюс прапажа тавару.

Цяпер дазваляецца прывозіць да: аднаго літра спіртнога, двух літраў вінных вырабаў, пяці літраў піва ды 250 штук папяросаў або 50 штук цыгар або 250 грамаў тытуню не больш чым два разы ў каляндарны месяц.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Беларускія госці ў нас

22 лютага г.г. нашу рэдакцыю наведалі прадстаўнікі беларускага ўрада ў асобах **Івана Яновіча** — намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, **Ніны Петуховай** — вядучага спецыяліста гэтага ж Камітэта ды **Генадзя Пяцігора** — вядучага спецыяліста Міністэрства асветы Рэспублікі Беларусь. Госці, якім спадарожнічаў віцэ-консул **Павел Латушка**, у час сустрэчы знаёміліся з умовамі жыцця беларускай меншасці на Беласточчыне ды інфармавалі пра працу сваіх ведамстваў. Цікавіліся яны мерамі, якія іхнія ведамствы ў змозе прымаць дзеля падтрымкі існуючых у нас беларускіх арганізацый.

Сёння ў Польшчы налічваецца больш за дзесятак беларускіх арганізацый, якія з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі. Арганізацыяй з найдаўжэйшай традыцыяй з'яўляецца Беларускае грамадска-культурнае таварыства. У яго таксама найдаўжэйшая традыцыя супрацоўніцтва з афіцыйнымі ўстановамі ў Беларусі. Астатнія арганізацыі ўзніклі на хвалі дэмакратызацыі і ўжыццяўлення ў Польшчы ідэалаў свабоды слова і дзейнасці ў пачатку 90-ых гадоў. Такім чынам поле грамадскай дзейнасці беларусаў запоўнілася — вядома, можна спрачацца, да якой ступені шчыльнасці гэтае поле запоўненае. Усім ясна аднак, што культурны краявід Беласточчыны ўзбагаціўся на шмат якія якасці невядомыя да 1990 года. Даволі багатая ўжо таксама традыцыя супрацоўніцтва маладых арганізацый з афіцыйным Мінскам. А сутнасць гэтай традыцыі зводзіцца да аднаго — нягледзячы на ранг афіцыйных асоб, якія наведвалі Беласточчыну ў 1990-1998 гадах, лучнасці ўстанавіць не ўдалося. Не ўдалося гэта ні ў перыяды „беларускага адраджэння", ні ў перыяды „беларускага застою". Прыкладам можа тут паслужыць сама газета „Ніва". Яшчэ ў 1988 годзе наша выданне распаўсюджвалася афіцыйнымі каналамі ў Беларусі, куды паступала 2 300 экземпляраў тыднёвіка. Супрацоўніцтва сарвалася ў 1989 годзе і ніколі ўжо не аднавілася. Кажучы пра супрацоўніцтва беларусаў Беласточчыны з Беларуссю, трэба адзначыць, што кантакты адбываюцца — на грамадзянскім узроўні.

Ініцыятыва супрацоўніцтва, з якой выступіла цяперашняе кіраўніцтва Беларусі ў асобах названых ва ўступе прадстаўнікоў уражвае перш за ўсё вокамгненнасцю звароту афіцыйнага Мінска ў дачыненні да беларусаў Беласточчыны як цэласці.

**(ам)**

**22 лютага ў вялікай зале спартыўнага клуба „Влукняж” адбыўся гала-канцэрт V Фестывалю „Беларуская песня ’98”.**

# Яны тут ёсць

Спадарыня Валянціна Ласкевіч (з боку арганізатараў) найбольш перажывала, каго б тут з самадзейнікаў выбраць на гала-канцэрт. Вядома, што найлепшых, але іх было многа. Каго ўзяць, каб ніхто не пакрыўдзіўся і каб усе былі задаволены...

А я (з боку гледачоў) непакоілася, ці людзі хаця папрыходзяць у гэту вялізную залу „Влукняжа”, дзе можа змясціцца нават некалькі тысяч чалавек. Білеты ж не былі занадта танныя, ды і ўсё-такі ў мінулым годзе многія ішлі „на прэм'ера Цімашэвіча”, а сёння ж ён усяго пасол Сейма ад Беластоцкай зямлі.

Калі я ўвайшла ў залу перад самым пачаткам канцэрта, усе месцы былі шчыльна запоўнены. Ого! — падумалася мне, людзі аднак жа прыходзяць „на песню”! Праўда, быў і Влодзімеж Цімашэвіч, пад ганаровым патранатам якога праходзіў V Фестываль „Беларуская песня ’98”. Беластоцкая зямля, сказаў ён, сталася яму блізкая роўна дваццаць пяць гадоў таму (ведаем: ажаніўся з тутэйшай). Абяцаў таксама частку сваіх заробкаў прызначаць на дзейнасць Беларускага таварыства і заклікаў да гэтага ўсіх.

Як і ў мінулым годзе, прамову В. Цімашэвіча перарывалі грамавыя авацыі. Прысутным на канцэрце беларускай песні, відаць, не перашкаджала, што сёння ён — толькі пасол Сейма і прыехаў без такой магутнай аховы, як у мінулым годзе. Тым больш, што ён быў не толькі спонсарам Фестывалю, але і тром калектывам уручыў прызнаныя ім кубкі: „Чарамшыне” (кубак і ўзнагароду), „Чыжавянам” і калектыву Гайнаўскага беларускага ліцэя.

Усё адбывалася вельмі культурна, а самадзейнікі спявалі амаль на прафесійным узроўні. І толькі ў адным моманце (калі Валянціна Ласкевіч, сакратар Беларускага таварыства, пачала дзякаваць Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь за дапамогу і нейкі малады барадач на галёрцы пачаў крычаць: „Не, не!”) — рашылі зрэагаваць ахоўнікі парадку, якія хутка вывелі бунтаўшчыка. А так — было ўсё „экстра”.

Усё ж такі найбольш дзякавала спадарыня Валя Міністэрству культуры Рэчы Паспалітай, без дапамогі якога такі Фестываль не змог бы адбыцца. Аднак жа польскія ўлады на Фестывалі былі прадстаўлены даволі слаба. Затое Беларусь на гэты раз мела шматлікую рэпрэзентацыю, былі таксама беларускія дыпламаты з Варшавы і Беластока (пасол Віктар Бурскі, саветнік пасольства РБ — упаўнаважаны міністр Уладзімір Каральчук, консул у Беластоку Мікалай Крэчка і віцэ-консул Павел Латушка). Прысутнічалі таксама паслы Сейма Сяргей Плева і, вядома, Ян Сычэўскі, старшыня Беларускага таварыства.

А самадзейнікі спявалі. „Каласкі”, „Расспяваны Гарадок”, гайнаўскія ліцэісты, хор БГКТ і яго салісты, хор Гайнаўскага дома культуры, бельскія „Маланка” і „Васілёчкі”, „Чарамшына” з Чаромхі, трыо „Пронару”, новы мужчынскі квінтэт Ірынея Лаўрэнюка з Бельска, „Цаглінкі” з Ляўкова, „Арэшкі” з Арэшкава, „Арляне” з Орлі, „Чыжавяне” з Чыжоў, „Родына” з Дубяжына, „Красуні” з Краснага Сяла, „Хлопцы-рыбалоўцы” з Рыбалаў, „Рэчанька” з Козлікаў, Антаніна Сідарук з Дабрывады, Ала Дубец, дуэт Люба Гаўрылюк—Уладзімір Іванюк, а таксама эстрадныя калектывы „Ас” і „998” — усіх і так тут не пералічыш.

І калі слухаеш гэтыя песні, якія ў большасці выканаўцаў ідуць з глыбіні душы, а не спяваюцца па заказе, то ты ведаеш, што яны, беларусы, тут ёсць. А дзе ж яшчэ яны могуць паказацца са сваёй культурай, мастацтвам?! Родная песня для іх — сцвярджэнне сваёй прысутнасці на гэтай зямлі.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

PS. Вялікую радасць гледачам прынесла выступленне вядомага беларускага хору імя Генадзя Цітовіча пад кіраўніцтвам Міхася Дрынеўскага з Мінска. **А. Ч.**

# Фестываль без (палітычнага) фальклору

Фестываль беларускай песні наведваю рэгулярна. Адзін з сяброў, пабачыўшы мяне ў зале, здзівіўся: „А ты што тут робіш, калі не мусіш?” (ён мусіў).

А я проста прысутны. Эстрадная творчасць фактычна не вельмі каб мяне цікавіла. Праўда, бывае на што паглядзець, бо ёсць у беларускай песні маладыя сілы, але наконт слухання, дык з году ў год страшней. Мастацкі ўзровень быццам бы расце, але коштам нечуванай саветызацыі. Інструктары з Беларусі прышчапляюць нашым ансамблям свой невыносны выканаўчы манер. Да таго мінскія краўцы адзяваюць артыстаў у свае фабрычныя вырабы.

Паколькі мне мядзведзі па вушах хадзілі, самай цікавай часткай гала-канцэрта было для мяне выступленне Влодзімежа Цімашэвіча. Верная публіка ўзнагародзіла яго, як заўжды, бурнымі апладысментамі, пачынаючы ўжо з яго ўваходу ў залу і шмат разоў перарываючы прамову.

Самы вядомы пасол Беластоцкай зямлі падзяліўся са сваімі выбаршчыкамі нядаўнай архіўнай знаходкай. Аказваецца, трыста гадоў таму Цімашэвічы ахоўвалі Белавежскую пушчу. Быў сярод іх і Цімашэвіч па імені Дымітр. Публіка тонкую алюзію зразумела і ўзнагародзіла нашчадка Дымітра чарговай порцыяй воплескаў. Білі ў ладкі і тады, калі пасол дэклараваў, што будзе адводзіць на збяднелае апошнім часам БГКТ частку сваёй зарплаты, хаця і не назваў канкрэтнай сумы.

Усё ж такі адчувалася, што ўсё гэта не тое, калі перапоўненая зала трашчала была ад натоўпу беларускага люду. А шаноўных гасцей колькі было! Прапалі ўсе: міністры, ваяводы і прэзідэнты. Сёлета зала была поўная, але кожны змог сесці, і мужчына, які прадбачліва прынёс раскладное крэсла, выглядаў недарэчна.

Асабліва пустым паказаўся калідор — маё ўлюбёнае месца на фестывалі. Адзін кемлівы малады чалавек выказаў думку, быццам прычына апусцеласці калідора ў адсутнасці „апазіцыянераў”, якія заўжды стаялі тут і ўсё раскрытыкоўвалі.

Што ж, колькі можна займацца неканструктыўнай крытыкай! Фестываль стаў даволі звычайным культурным мерапрыемствам і праводзіўся зусім спраўна. Гледачы заплацілі па 20 злотых і за гэта мелі добры час, як кажуць беларускія амерыканцы. Відаць так і павінна быць, але для мяне фестываль без палітычнага фальклору страціў сваю прыцягальную сілу.

**Алег Латышонак**



*„Арляне” з Орлі.*

# Свята ў „Самараніне”

**У дом міласэрнасці „Самаранін” прымаем людзей старэйшых, у якіх няма сваёй хаты, або тых, у якіх складаныя сямейныя адносіны вымушаюць пакінуць свой родны дом, — гаворыць настаяцель прыхода Святой Тройцы ў Гайнаўцы айцец Міхаіл Негярэвіч.**

15 лютага г.г. адбылося ўрачыстае адкрыццё Дома міласэрнасці „Самаранін” пры парафіі Святой Тройцы. У ліку запрошаных гасцей быў архіепіскап Сава, выконваючы абавязкі галавы Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, дэканы Варшаўска-Гданьскай епархіі, свяшчэннікі суседніх парафіяў, паслы Сейма — Ян Сычэўскі і Сяргей Плева, бурмістры Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і войты суседніх гмін. Пасля асвяшчэння дома, царквы Пакрова Прасвятой Багародзіцы, што паўстала на першым паверсе і літургіі адбылася сустрэча з пасяленцамі „Самараніна”. Дырэктарам назначаны быў настаяцель вышэйзгаданага прыхода айцец Негярэвіч, які ўжо 22 гады служыць у Гайнаўскай парафіі.

Дом міласэрнасці, у якім падрыхтаваны месцы на 39 асоб, працуе ўжо другі месяц. Зараз прыняты 32 асобы, у ліку якіх не толькі праваслаўныя. Хаця найбольш жанчын, ёсць і мужчыны, трапляюцца і сужонствы. Тры асобы пераехалі з вялікага Грамадскага дома апекі ў Ялоўцы.

— Тут спакойна і многа знаёмых, — расказвае Яўхімія Гілеўская з Сухавольцаў. — Там у Ялоўцы быў толькі гоман. Многа было і палякаў, і цыганоў.

— Мой муж быў кастаправам у Вілоках. О, многа людзей ведала яго. І прывозілі здалёк. Калі 17 гадоў таму памёр муж, пачаліся беды. Ужо 10 гадоў жыву я па людзях і зараз рашылася перайсці сюды, — кажа Анна Саевіч з Вілокі ў іздыхае, успамінаючы сваю сям'ю. — Трэба было ўплаціць 10 мільёнаў (старых злотых). 75% пенсіі ідзе на Дом, а крыху яшчэ застаецца на нейкія свае расходы. Тут накормяць і абагрэюць пакойчык і апека медсёстраў дзень і ноч. Нам застаецца толькі прыбраць у пакоі, а калі нехта стары або хворы, дык прыйдуць і прыбяруць.

У „Самараніне” працуюць зараз тры медсёстры, лекар, дзве кухаркі, прыбіральшчыца і многа асоб прыходзіць памагаць бясплатна. Штодзень за працай назірае намеснік дырэктара, спадарыня Людміла Ліцкевіч.

— Грошай не хапала ад пачатку. За сродкі парафіі мы адрамантавалі будынак. Зараз атрымліваем у сярэднім па 250 зл. ад асобы. А для прыкладу, у дзяржаўных дамах апекі на адну асобу адводзіцца па 1400 зл. Парафія вымушана фінансаваць часткова ўтрыманне „Самараніна”. Не хапае яшчэ рэабілітацыйна-медычнага абсталявання, — расказвае айцец Міхаіл. — Трэба сказаць, што адгукнуліся на нашу просьбу войты гмінаў: Гайнаўка, Чаромха, Дубічы-Царкоўныя і Нараўка, якія перадалі нам па 10—15 мільёнаў (ст. зл.). Былі і прыватныя ахвяры, частка дзякуючы аб'яве, што друкавалі ў „Ніве”, за што сардэчна дзякуем ад усіх жыхароў нашага Дома. Калі ёсць ахвотныя дапамагчы нам, просім ахвяраванні пералічваць на банкаўскі рахунак:

**PKO Hajnówka 10201358-6536-270-1 „Дом міласэрнасці”.**

У дзіцячым будынку былой гайнаўскай бальніцы парафія супольна з Дзяржаўным фондам калекіх асоб маюць намер арганізаваць рэабілітацыйныя заняткі для трыццаці асоб з хваробай Дауна.

— Дома было так, што і тыдзень есці не давалі, не гаворачы пра аплёўванне і сваркі з раднёй, а тут усё ёсць. Кормяць добра, цёпла, царква на месцы, — уключаецца ў размову жанчына з-пад Нараўкі. — Гэта так, як гаварыў бацюшка ў час пропаведзі: сабраліся тут людзі пакрыўджаныя жыццём, але якіх Бог не забыў.

На калідоры чакаюць дзве жанчыны, якія хочуць пераехаць у Дом міласэрнасці. У адной кабеты слёзы ў вачах.

— Добра, што ёсць яшчэ асобы, якія хочуць прыходзіць і памагаць бясплатна, — кажа намеснік дырэктара, спадарыня Людміла. — Некалькі дзяўчат з Беларускага ліцэя прыходзілі мыць хворых жанчын, прыбіраць пакоі. Найчасцей бывае Агнешка Ярашук. Дзякуй ім за бескарыслівую дапамогу.

**Аляксей Мароз**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка”,**

хачу падзяліцца з табой і з тваімі чытачамі легендай пра Крынічку, якая знаходзіцца каля маёй вёскі.

Кнарыды — вялікая вёска. За ёй на палях стаіць Крынічка, каля якой плыве вада. Старыя людзі кажуць, што тут аб'явілася Марыя. Яна паказалася людзям, якія служылі пану. Яны былі хворыя. Маці Божая сказала ім, што будуць здаровымі і адышла. Праз пару хвілін з таго месца пачала выплываць вада. Людзі былі анямелыя, але верылі ў Яе словы. Хуценька ўсе памыліся і сталі здаровымі. Каля крынічкі ляжаў камень, у якім адбілася стапа Марыі. Яна віднее на камені да сёння.

На памятку гэтага здарэння, кнарыдаўцы пабудавалі Крынічку. Цяпер яна вельмі прыгожая. У ёй адбываюцца службы — два разы ў год. Першая — 78-га дня пасля Вялікадня, а другая — 80-га дня пасля Велікодных свят. Да Кнарыд прыходзяць і прыязджаюць людзі, якія вераць у моц вады. Яны наведваюць Крынічку не толькі ў час багаслужбаў, але і ў будныя дні.

**Кася ЯРАШЭВІЧ,**
**вуч. V класа ПШ у Кнарыдах.**

**Ад рэдакцыі:** Дарагая Кася! Мне вельмі спадабаўся (думаю, што і ўсім чытачам) твой расказ пра Крынічку. Многія чытачы „Зоркі” наведалі ўжо гэтае цудоўнае месца і сённяшняя сустрэча з Крынічкай у Кнарыдах наводзіць незабыўныя ўспаміны з XI Сустрэч „Зоркі”.



*Бася Байко, Пятрусь Клімец і Ева Мароз-Кэчынская з Белавежы.*

# Белавежцы

У першы вечар XII Сустрэч „Зоркі” была наладжана традыцыйная ўжо вечарына. Атракцыёнам стала выступленне белавежцаў (не паэтаў). Юліта і Бася Байко, Наталька Шляхцюк, Пятрусь Клімец і спадарыня Ева Мароз-Кэчынская ўдзельнічаюць у занятках „Klubu Tropiciela”. Галоўная мэта іх сустрэч — знаёмства з найбліжэйшым наваколлем.

— Найчасцей ідзем у тэрэн або сустракаемся з цікавымі людзьмі, — сказаў Пятрусь Клімец. — Удзельнікі Клуба цікавяцца гісторыяй Белавежы, яе жыхарамі і іх звычаямі. Гурток дзейнічае пры Белавежскім доме культуры.

Нашы даследчыкі ўпершыню выступалі перад такой вялікай публікай. Нягледзячы на вялікае хваляванне, іх расказ аказаўся займальным.

Не адзін слухач пазайздросціў дзейнасці ў клубе.

**ЗОРКА**

# Мужык і салавей

Жыў аднойчы мужык. Быў у яго сад з трыма дубамі. Раз прыляцеў у сад салавей песні спяваць, а мужык пабачыў яго і давай праклінаць:

— Ах ты, такі-сякі разбойнік, чаго ты ў мой сад прыляцеў ды паршыва спяваеш! Зрубаю я тыя тры дубы, што растуць у маім садзе. І не будзе табе дзе сядзець і сваё песні пець. Разаб'ешся ты, чортавая птушка, аб зямлю і пець перастанеш.

Спяваў салавей на першым дубе, зрубаў мужык першы дуб. Салавей сеў на другі дуб, мужык і гэты дуб зрубаў. Салавей на трэці дуб пераляцеў, але і гэты дуб мужык зрэзаў. Нідзе не мог салавей спакойна сесці і паспяваць.

Узляцеў ён высока і ўніз каменем паў. А мужык унізе стаяў, на салаўя глядзеў, рот разявіў, лаяўся. Уляцеў салавей мужыку ў рот. Закашляўся мужык, запляваўся, захацеў салаўя выплюнуць, аднак салавей моцна завяз у грудзях мужыка.

Ад той пары салавей жыве ў мужыка ў грудзях. Чуць мужык рот адчыніць, каб слова якое сказаць і моўкне, баючыся каб салавей яму сораму не нарабіў.

**Паўліна КАНДРУСІК, кл. IV „д”**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

Мой любімы літаратурны герой

# „Ключ”

Нядаўна прачытаў я апавяданне Алеся Пальчэўскага „Ключ”. Галоўны герой гэтага апавядання — настаўніца Алімпія Феакцістаўна.

Падзеі апавядання адбываліся ў горадзе на Беларусі. Алімпія Феакцістаўна жыла адна. Яе муж загінуў на вайне, у Нямеччыне, а сын школьнік загінуў у партызанах недалёка горада. Яна была выхавацелькай трэцяга „в” класа. У гэтай школе таксама ў трэцім класе вучыўся Косця Дубарэвіч. Быў ён вучнем-*хуліганам*. Настаўнікі не маглі з ім справіцца. На педсавеце дырэктар рашыў яго перавесці ў суседнюю школу. Алімпія Феакцістаўна папрасіла ў дырэктара, каб хлопец перайшоў у яе клас. Не было гэта проста, але Косця ўсё ж трапіў у трэці „в”. Першыя дні былі вельмі цяжкімі. Косця ставаў на руках і на галаве на ўроках, без дазволу выходзіў за дзверы, з мокрай паперы рабіў камячкі і кідаў у дошку. Сэрца настаўніцы балела, гледзячы на ўсё гэта, але яна маўчала. Спадарыня Алімпія гэта жанчына вельмі цярплівая. Яна, страціўшы сваю сям'ю, умела любіць іншых людзей. Вельмі любіла сваіх вучняў. Косця ў вучобе не быў дрэнны, ён памагаў слабейшым сябрам. Быў вялікім свавольнікам. Алімпія вучыла яго два гады. Потым сям'я Косці выехала на Урал. Прайшло дванаццаць гадоў. Косця стаў лейтэнантам. І вось аднойчы прыехаў ён да настаўніцы ў госці. Косця Дубарэвіч хацеў падзякаваць настаўніцы за ўсё, што яна для яго зрабіла. Косця прызнаўся, што ён позна зразумеў „як тонка дабіраліся вы да майго сэрца”. Многа з таго, чаго настаўніца навучыла Косцю, ён цяпер перадаваў сваім выхаванцам-салдатам.

Алімпія Феакцістаўна гэта жанчына, з якой можна і трэба браць прыклад. Яна ўмела проста знайсці „ключ” да сэрца кожнага вучня. Алімпія Феакцістаўна гэта любімы герой не толькі мой, але думаю, што ўсіх, хто чытаў гэтае апавяданне.

**Грыша ВРУБЛЕЎСКІ**
**клас VIII „е” ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**

## *Вершы Віктара Шведа*

**Падчас яды не размаўляй!**

Азваўся тата: — Мікалай,
Падчас яды не размаўляй!
Не брэша і сабака твой,
Калі заняты ён ядой.

Тату сыночак даў адказ:
— Ён забрахаў бы і не раз,
Калі б сягоння акурат
У місцы меў, як я, шпінат!

**Кража**

Настаўніца дзецям кажа:
— Злачынствам завем мы кражу.
Хто толькі крадзе ў народзе —
Той, безумоўна, злодзей.

Калі я ўкласці спрабую
Руку ў кішэню мужскую,
Кім буду, скажы, Сымонка?
— Напэўна, ягонай жонкай.

# Якуб Колас

Якуб Колас, побач Янкі Купалы, быў другім найбольш вядомым паэтам і празаікам, стваральнікам беларускай літаратуры першай паловы XX стагоддзя. Нарадзіўся 3 лістапада 1882 года ў вёсцы Акінчыцы каля Стоўбцаў у сям'і лесніка. У сапраўднасці называўся Канстанцін Міцкевіч. Якуб Колас — гэта толькі яго літаратурны псеўданім, які з часам заступіў яму імя і прозвішча.

Пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы Якуб Колас працаваў у некалькіх вясковых школах на Беларусі. За ўдзел у нелегальным з'ездзе беларускіх настаўнікаў у 1906 годзе быў звольнены з працы. З 1907 года пачаў супрацоўнічаць з „Нашай нівай”. Падчас I сусветнай вайны служыў у царскай арміі. У траўні 1921 года пераехаў жыць у Менск, дзе працаваў выкладчыкам у Беларускім педагагічным тэхнікуме, пасля ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. З дня заснавання Акадэміі навук быў яе першым віцэ-прэзідэнтам. Пасля II сусветнай вайны прадаўжаў творчую і навуковую дзейнасць.

Якуб Колас пачынаў пісаць на рускай мове. У друку аднак дэбютаваў вершам „Наш родны край” на беларускай мове. У 1910 годзе паказаўся першы зборнік вершаў паэта пад загалоўкам „Песні-жальбы”. Пасля некалькіх гадоў Колас пачаў пісаць свае творы прозай. Былі гэта найчасцей апавяданні, якія адлюстроўвалі штодзённае жыццё беларусаў, прыгажосць роднай зямлі, несправядлівасць існуючага палітычнага і грамадскага парадку. У дваццатыя гады Колас напісаў свае найбольш вядомыя паэмы — „Новая зямля”, „Сымон-музыка”, зборнікі апавяданняў — „Казкі жыцця”, „На рубяжы”, „Крок за крокам”, аповесці — „У палескай глушы”, „Адшчапенец”, „Дрыгва”. У саракавых гадах шмат увагі ў сваёй творчасці паэт прысвяціў ваенным лёсам суродзічаў. Узніклі тады такія паэмы як „Суд у лесе”, „Адплата”, зборнікі вершаў „Адпомсцім”, „Нашы дні”, „Голас зямлі”.

Якуб Колас быў таксама знакамітым публіцыстам і перакладчыкам рускай, польскай і ўкраінскай літаратур на беларускую мову. Памёр 13 жніўня 1956 года.

# Што любяць у Нарве?

Нарва гэта мясціна распалажаная 30 кіламетраў ад Бельска. Яна не вельмі вялікая. Аднак і тут прыйшла мода на графіці — малюнкі на сценах, якія выконваюцца шпрэем. Некаторыя кажуць, што гэта мастацтва. Ці можна так сказаць аб малюнках на мурах у Нарве? Каб гэта праверыць, у час XII Сустрэч „Зоркі" я хадзіў па Нарве і спісваў некаторыя графіці. На жаль, большасць думак была дурная (напрыклад: WC) або змяшчала многа брыдкіх слоў.

Першы цікавы сказ на будынку я знайшоў зусім выпадкова: мы хадзілі аглядаць Нарву і зайшлі на вуліцу Касцельную. Я звярнуў увагу на словы выпісаныя на гаспадарчым будынку: „Wódka zabija powoli, ale nam się nie spieszy". На жаль, гэтую залатую думку хтосьці вымаляваў, па-першае, брыдка, а па-другое, у мала відным месцы.

Ходзячы па Нарве, я пабачыў некалькі надпісаў: „Iskra Pany". Аднак для мяне гэта не была навіна. Дзе толькі я не бачыў графіці, заўсёды знаходзяцца такія, у якіх хтосьці „панам".

Найпрыгажэйшы малюнак на сцяне я пабачыў на вуліцы Бельскай. На краме напісана: „Kocham motory". Аўтар гэтых слоў зрабіў вельмі цікавыя, тоўстыя літары. Яны заходзілі адна на адну. Думаю, што чалавек, які выканаў гэтае графіці з'яўляецца самародным мастаком.

Гледзячы на гэтыя словы, я дайшоў да вываду, што ў Нарве найбольш любяць матацыклы, таму што гэты малюнак, падовле мяне, найпрыгажэйшы.

**Мішка**

# Сустрэча з Надзеяй Артымовіч

6 лютага г.г., у пяты дзень XII Сустрэч „Зоркі" наведала нас беларуская паэтэса Надзея Артымовіч. Яна цікава расказала пра сваё жыццё і творчасць.

Спадарыня Артымовіч жыве ў Бельску-Падляшскім. Нарадзілася яна ў Ягуштове, калі яе бацькі пабывалі там на хрысцінах. Гэтая вестка паказалася мне незвычайнай, бо наша тэатральная група якраз ладзіла спектакль „Хрысціны ў Ягуштове".

Цікава было паслухаць новыя вершы, якія паэтэса прачытала сваім слухачам.

**Аня Асташэвіч, Ягуштова**

# Польска-беларуская крыжаванка № 9

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу 3 тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Palka wodna | ▼ | Balon | ▼ | Woda | ▼ | Chińskie imię |
| Marzec | | Koza | | | | Kasza |
| ▶ | | ▼ | | ▼ | | ▼ |
| Góra ▶ / Wóz | | | | | 📖 | |
| ▶ | | | Prysznic ▶ | | | |
| Zasadzka ▶ | | | | | | |

## Крыжаванка Касі Леанюк № 10

1. Адсутнасць праўды.
2. Наша планета.
3. Мар'яцкі ў Гданьску.
4. Вясёлая на твары.
5. Адбітак на снезе.
6. Еўрапейская дзяржава.
7. Лік.
8. Чырванее ў жыцце.

**Адказ на крыжаванку н-р 5:**
Зюзя, зубок, бар, казытанне, мыта, разынка

Гам, зыр, жыта, таз, губа, банан, горн, яда.

**Правільных адказаў не было.**



*Сцэнка „Нараджэнне".*

# Пачынаецца ўсё з любві

***(пачатак у 8-ым нумары)***

## Дзея другая

*(На сцэну ўваходзіць Летапісец з кніжкамі і чытае верш Яўгеніі Янішчыц).*

**Летапісец:**

Ты пакліч мяне
Пазаві.
Там заблудзімся ў хмельных
травах.
Пачынаецца ўсё з любві —
Нават Самая простая ява.
І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві —
Першы поспех і першыя крокі.
Прыручаюцца салаўі
І змяняюцца краявіды.
Пачынаецца ўсё з любві —
Нават нянавісць і агіда.
Ты пакліч мяне.
Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві —
А інакш і жыць немагчыма.

*(Летапісец раскладае на стале кніжкі, здзьмухвае з іх пыл і заказвае сцэнку. Пасля кожнага выступлення сядае ён да свайго століка, які знаходзіцца ў пярэднім куце сцэны).*

**Летапісец:** Частка першая. НАРАДЖЭННЕ.

*(Сцэнка перадаецца танцам пад гукі народнай метафізічнай песні, напрыклад у выкананні калектыву „Красавік" або „Ліцьвіны". Танец „нараджэння" выконваюць пяць дзяўчат. Гэтая сцэнка пераходзіць у лялечны тэатр. Над занавескай паяўляюцца дзве рукі ў рукавічках і прадстаўляюць капрызны дыялог немаўлят. Дзве сцэнкі трываюць да дзесяці хвілін. Пасля поўнага выяўлення задумы, акцёры кланяюцца публіцы і сыходзяць са сцэны. Зноў паяўляецца Летапісец).*

**Летапісец:** Частка другая. ХРЫСЦІНЫ.

*(На сцэну ўваходзіць маці з немаўляткам і спявае хрысцінную песню „Клёном-лістом". Наша сцэнка іграецца на падляшскім дыялекце паводле фалькларных крыніц з Ягуштова. Пасля другой страфы песні чуецца стук у дзверы).*

**Маці:** Заходьтэ, заходьтэ!

*(У хату заходзяць кум, кума і суседкі).*

**Суседка:** Ой, якое брыдкое дітя. А як называецця?

**Маці:** Ціхунь его зваті.

**Усе:** *(са штучным здзіўленнем)* Ціхунь? Ціхунь?

**Кума:** Ну то давайтэ заспіваем ёму якуюсь вэсёлу пісьню. Коб вуон вэсёлы быў.

*(Госці спяваюць хрысцінную песню „Канаплі". У час песні кум танцуе з кумой, суседкамі і маці. Танец паказвае ўсе этапы апрацоўкі канапель. Песня „Канаплі" друкуецца ў „Зорцы" ў „Ніве" н-р 30 з 1997 г.).*

**Суседка II:** *(пасля танцаў).* Ну, бывайтэ, але на нас ужэ пора. *(Героі сцэнкі далучаюцца да публікі.)*

**Летапісец:** Частка трэцяя. ДЗЯЦІНСТВА.

*(На сцэну ўбягаюць дзеці. Найперш танцуюць у крузе, далей сядаюць на зямлю і раскладаюць цацкі).*

**Дзіця I:** А мой бацька багацейшы, чым твой.

**Дзіця II:** А мой разумнейшы.

**Дзіця I:** А мой тваймў грошы пазычае.

**Дзіця II:** А мой разумнейшы, бо не аддае.

*(Дзіця I махае рукой і пачынае гутарку з Дзіцём III).*

**Дзіця I:** Што ты робіш?

**Дзіця III:** Адпачываю.

**Дзіця I:** А да гэтага?

**Дзіця III:** Спаў.

**Дзіця I:** Але ж, пасля сну добра і адпачыць. Янка, на яйка *(дае Дзіцяці III яйка).*

**Дзіця III:** А аблупленае?

**Дзіця I:** Аблупленае.

**Дзіця III:** А пажавала?

**Дзіця I:** Дык не.

**Дзіця III:** Ну тады еш сама!

*(На заканчэнне сцэнкі дзеці зноў танцуюць і развітваюцца з публікай).*

***(працяг будзе)***



Талон „Зоркі" №№ 9, 10
08.03.1998

# Музыка была яго жыццём

**Яшчэ ў лістападзе 1997 г. загадкай аставалася месца пахавання выдатнага беларускага музыканта, кампазітара і педагога Яна Тарасевіча. Зараз канчаткова высветлілася гэтае пытанне. Магілу адшукаў айцец Уладзімір Місяюк, настаяцель парафіі ў Саколцы. Дапамагла яму ў гэтым прыхаджанка Тамара Пашынская.**

— Пан Тарасевіч быў адным з самых лепшых сяброў майго першага мужа, — успамінае спадарыня Пашынская, памешчыца падсакольскага маёнтка Сцебялец, сёння 81-гадовая жыхарка Саколкі.

Тамара Пашынская з дому Гацкевіч нарадзілася ў 1917 г. у бежанстве. У Саколку прыехала ў 1935 годзе, пасля вучобы ў рускай гімназіі ў Бярэсці. Праз год выйшла замуж за Якава Курыловіча, уладальніка Сцебяльца. Жыла там да 1939 г.

— Менавіта тады я ведала пана Тарасевіча. Ён меў тут невялікі маёнтак Шындзель (каля 100 гектараў зямлі). Мой муж быў яго лепшым сябрам. Мы вельмі часта сустракаліся. Маёнткі Шындзель і Сцебялец знаходзіліся якраз па-суседску. Зараз двары гэтыя не існуюць. Маёмасць і зямлю атрымалі мясцовыя мужыкі пасля зямельнай рэформы.

У Шындзелі знаходзіліся драўляны дом, абора і стадола. Маёнткам кіравалі аканомы Лявіцкі і Федзюкевіч з Саколкі. Калі я прыйшла ў Сцебялец, пану Тарасевічу было ўжо пад пяцьдзесят. Ён быў халасцяком, хаця жыла ў яго маладая, займальная жанчына. Яна вяла дом. Гэтая жанчына (пані Пашынская не магла прыгадаць яе прозвішча) прыехала ў Шындзель з Расеі, разам з чатырохгадовай дзяўчынкай. Пазней ужо тут нарадзіла сына. Аднак перад вайной вярнулася яна разам з дзяцьмі ў Савецкі Саюз, праўдападобна да мужа-вайскоўца. Дарэчы, жыццё з гэтай жанчынай было ахутана таямніцай. Пан Тарасевіч напэўна кахаў тую жанчыну, але самым вялікім каханнем яго жыцця была музыка. Ён цэлымі днямі займаўся кампанаваннем, ігрой або працай з дзяцьмі і моладдзю. Часта ездзіў у Саколку, дзе разам з Янінай Кісель даваў урокі музыкі. У іх была група з 25—30 вучняў. Час ад часу ладзілі яны канцэрты для жыхароў Саколкі. Заняткі вяліся ў г.зв. Доме людовым, сённяшнім Доме культуры.

Пані Тамара пяцьдзесят пяць гадоў праспявала ў царкоўным хоры. Як гаворыць, любоў да спеву гэта сямейная традыцыя. Яе бацька, хаця працаваў бухгалтарам, маляваў карціны і быў царкоўным рэгентам. Таму сустрэчы з Янам Тарасевічам былі асаблівыя.

— Ён іграў на раялі, а я спявала яго любімыя народныя песні: беларускія, рускія, украінскія. Памятаю таксама танцавальную музыку. Пан Тарасевіч іграў многа-многа вальсаў, часам фрагменты вядомых опер. Ён гаварыў, што з маладых гадоў іграў на скрыпцы. Дарэчы, як і яго бацька, які таксама быў выдатным скрыпачом.

— Чаму не папулярызаваў сваёй музыкі шырэй?



*Тамара Пашынская з Саколкі.*

— Музыка была яго ўсім жыццём. Усе тэмы размоваў круціліся вакол музыкі. Часам ездзіў у Варшаву, адкуль прывозіў многа нотных запісаў. Магчыма, што там сустракаўся з іншымі кампазітарамі. Ён быў ціхім і сціплым чалавекам. Усе яго любілі. Быў ён вельмі цікавым суразмоўцам і з ім можна было гаварыць на ўсе тэмы. Не толькі пра музыку. Цікавіўся літаратурай, мастацтвам. Ды і сам быў жыццярадасным, шчырым і адкрытым чалавекам.

Спадарыня Пашынская ўспамінае клімат даваенных сустрэч дваранства:

— Памешчыкі часта сустракаліся. Тут на Сакольшчыне было многа праваслаўнай шляхты: Лазоўскія, Курыловічы, Більміны, памешчыкі з Шудзялава (Т. Пашынская забыла іх прозвішча). Памешчыкі размаўлялі на расейскай мове, але ўсе яны былі патрыётамі сваёй зямлі. Як Ян Тарасевіч. Кампазітар ведаў многа беларускіх народных песень, гаварыў таксама (без памылак) на беларускай літаратурнай мове. Моцна цаніў сваю родную зямельку, дзе нарадзіўся, дзе спачывалі яго родныя, бацька і аднагадовы брацік Косця. Маці Яна Тарасевіча праўдападобна памерла ў Расеі.

Пан Тарасевіч часта наведваў сакольскую царкву. Дарэчы, спадарыня Пашынская ў царкве сустрэла свайго першага мужа, Якава Курыловіча. Ян Тарасевіч быў старшым сватам на іх вяселлі.

* * *

Ян Тарасевіч пахаваны на праваслаўных могілках у Саколцы. Яго сціплая магіла знаходзіцца непадалёк капліцы ў памешчыцкім кутку. Там жа сустрэнеце магілы згаданых Лазоўскіх і Курыловічаў.

Ян Тарасевіч пахаваны побач сваіх родных, брата Косці (захаваўся помнік) і праўдападобна бацькі. Паводле Тамары Пашынскай, у 1997 годзе *нехта* паставіў кампазітару сціплы помнік. На ім польскамоўная табліца — *Jan Tarasiewicz. Wybitny artysta muzyk, kompozytor. Żył lat 69. Zmarł 18 kwietnia 1961.*

Мая субяседніца прысутнічала на пахавальных музыканта.

— Хараніў яго айцец Сяргей Петрашкевіч. Пахавінамі займаўся малады чалавек, праўдападобна вучань Тарасевіча. І, мабыць, гэта ён паставіў кампазітару ў 1997 годзе помнік.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



*Магіла Яна Тарасевіча.*

**Ян Тарасевіч нарадзіўся ў 1882 годзе ў сям'і царскага падпалкоўніка. Ва ўзросце дзесяці гадоў іграў з памяці Ліста і Шапена. Вучыўся ў пецярбургскай кансерваторыі ў прафесара Абрамовіча. Быў знаёмы з пачынальнікам новай латышскай класічнай школы Язэпам Віталем.**

**Яна Тарасевіча, які пасля першай сусветнай вайны пражываў у Шындзелі, наведвалі музычныя знакамітасці, Рахманінаў і Сібеліус. Кампазітар меў таксама дачыненне да фарміравання таленту польскага дырыжора сусветнай вядомасці Ежы Максымюка.**

**У багатай спадчыне кампазітара творы на вершы беларускіх паэтаў М. Багдановіча і Я. Коласа. Ян Тарасевіч запісваў таксама беларускі фальклор у наваколлі Бельска-Падляшскага.**

**Імя Яна Тарасевіча памалу вяртаецца ў нацыянальную культуру. Многія выдатныя музыканты як Ежы Максымюк ці Віктар Скарабагатаў лічаць кампазітара з Шындзелі геніем.**

# Пасля міністравых уцёкаў

У чацвер, 19 лютага г.г. у Ваяводскай бібліятэцы ў Беластоку адбылася прамоцыя кнігі Міхала Ягелы п.з. „Za granią grań". Шчыра прызнаюся, што не хацелася мне ісці на дыскусію пра кнігу, прысвечаную горам, як жа ж аддеглым ад нашай Беласточчыны. Але з увагі на асобу аўтара, які доўгі час, як віцэ-міністр культуры і мастацтва нашай дзяржавы, апекаваўся культурай нацыянальных меншасцей...

І не шкадую, што пайшоў. Міхал Ягела, перш чым стаць важнай дзяржаўнай асобай, многія гады працаваў горным ратаўнікам у Татрах. І згаданая кніга — далёка не першая ягоная з мантаніцкім зместам (уводжу слова „мантанізм", якое мае змясціць у сабе і *татэрніцтва*, і альпінізм, і гімалаізм, і ўсе іншыя каракарумізмы). Яна з'яўляецца сярэдняй часткаю трылогіі, першую частку якое складае „Trójkątna turnia" (1996), а трэцяю мае быць „Długi upłaz słów". Апрача згаданых кніг Міхал Ягела напісаў яшчэ „Wołanie w górach" (неўзабаве пакажацца пяты выпуск яе) і „Obsesje i inne góry" (1994). І гэта не ўсё, бо былі яшчэ грамадскага зместу „Hotel klasy «Lux»" і „Bez oddechu" ды „Partnerstwo dla przyszłości", прысвечаная нам, нацыянальным меншасцям. Да гэтага даходзіць публіцыстыка ў часопісах „Tygodnik Powszechny" і „Fakty"; неўзабаве ў штомесячніку „Literatura" мае паказацца ягонае эсэ пра Беларусь.

Агульна пісьменніка цікавіць грань, памежжа, у тым ліку і нацыянальнае, бо аўтар па сваім прозвішчы адчувае нейкі атавізм да Вялікага княства Літоўскага, хаця нарадзіўся каля Кракава. Я на тэму ягонага прозвішча маю крыху іншае меркаванне, бо магло ж быць і так, як з нейкім салдатам, бадай Суворава, якога з-за яго падабенства да прускага фельдмаршала Блюхера і назвалі Блюхерам; далёкі нашчадак таго салдата атрымаў у Чырвонай Арміі званне маршала, а несхадзе і званне „ворага народа" з усімі гэтага паслядоўнасцямі. А і вялікі князь і кароль Якаў-Ягайла-Уладзіслаў, хаця быў маленькі, але ўдаленькі... Міхал Ягела лічыць сябе дзіцём Вялікага княства і адчувае „głęboką potrzebę kontaktu z tymi, co są w mniejszości".

Але пара вярнуцца да гор і растлумачыць, чаму так многа мантаніцкіх кніг паўстала ў міністэрскі перыяд жыцця пісьменніка. Міхал Ягела сказаў, што бываюць у жыцці людзей такія хвіліны, калі „жыццё перарастае іх", і адны шукаюць тады супакою ў гарэлцы, другія — у абдымках новай жанчыны... Яму ж лякарствам на стрэс былі Татры. Былы міністр прызнаўся, што калі нядаўна прапанавалі яму цёплую пасаду ў дыпламатычным прадстаўніцтве за мяжою, ён адмовіў: бо тут я ўцяку ў Татры, а за граніцаю — куды?

Заўважу я тутака, што нейкія дваццаць ці трыццаць гадоў таму англійскія псіхолагі прыкмецілі, што калі ў лонданскім метро памянялі надпісы „Выхаду няма" на „Выхад з другога боку", у горадзе рэзка паменшаў лік самагубстваў.

Міхал Ягела пакінуў за сабою палітычныя хваляванні, але з горамі не растаецца. Два дні пасля беластоцкай сустрэчы чакала яго дзяжурства ў татранскім GOPR.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Старажытнасці ў Бельску

У мінулым годзе праводзілася мадэрнізацыя Замкавай вуліцы ў Бельску. Гэта найстарэйшая частка горада, на пясчанай касе між рэчкамі Любкай і Белай, побач сярэднявечнага гарадзішча. Таму ўсе зямныя работы ішлі пад наглядам археолагаў. Багатыя знаходкі пацвердзілі непарыўнасць засялення гэтай зямлі прынамсі ад X стагоддзя.

Вынікі археалагічных раскопак Замкавай вуліцы можна цяпер убачыць у Гарадскім музеі Бельска — у старадаўняй ратушы. Экспазіцыю састаўляюць прадметы штодзённага побыту, касцяныя, каменныя і металёвыя прылады, ганчарства. Можна паглядзець чарцёж укапанай у зямлю хаты — паўзямлянкі, — у якой жылі нашы продкі і нарысаваныя на планшэтах іх заняткі, такія як падрыхтоўка ежы, выраб вопраткі, вытапліванне жалеза, паляванне. Найбольшыя экспанаты выстаўкі — гэта дубовыя палі, якімі ўмацоўвалі заселены ўзгорак ад балотных і намнога калісьці большых, чым сёння, рэчак.

Выстаўка будзе прэзентавацца да канца красавіка. Тады ў бельскай ратушы пройдзе навуковая канферэнцыя па археалогіі, у час якой будзе падсумавана шматгадовая праца Падляшскай археалагічнай экспедыцыі Польскай акадэміі навук. **(ак)**

# З дыпломам замятаць нельга?

**— Вельмі цяжка знайсці працу ў сённяшні час. Пераканаўся я ў гэтым, — кажа мой 32-гадовы суразмоўца, магістр-інжынер механізацыі сельскай гаспадаркі, — на сваёй шкуры. А шукаць працу можна на ўсякі спосаб. Я рашыўся на аб'явы ў прэсе. Кожны панядзеляк купляю „Газету выборчую" і ўважліва, з алоўкам у руцэ, перачытваю ўсе прапановы. Закрэсліваю ўсё, што мяне зацікавіць, а потым пасылаю свае заяўкі. На некаторыя з іх адказ прыходзіць вельмі хутка, на іншыя — зусім не. Аднойчы са мною здарылася такое...**

Недзе ў пачатку лістапада мінулага года беластоцкі філіял адной з буйных польскіх фірмаў шукаў кандыдата на пасаду „асістэнта гандлёвага прадстаўніка" — шафёра, карацей кажучы. Я пацікавіўся гэтай прапановай, бо люблю і гандляваць, і многа ездзіць. Задавальняў я, так мне падумалася, усе патрабаванні — за выключэннем той акалічнасці, што фірма шукала чалавека з сярэдняй адукацыяй, а ў мяне вышэйшая-тэхнічная. Ну і што з гэтага, зараз жа падумалася мне, на бацькавай гаспадарцы гной перакідаў я і з дыпломам. У фізічнай працы нічога страшнага.

Яшчэ ў той жа дзень паслаў я філіялу буйной польскай фірмы неабходныя дакументы. Чакаць адказу не давялося доўга. „У гэты момант у нас няма адпаведнай для вашай кваліфікацыі пасады. Дзякуем за зацікаўленасць нашай фірмай" — і ўсё! Такія словы, вядома, крыху мяне збянтэжылі. Што ж, я і сам ведаю, што працы па сваёй спецыяльнасці не знайду. Але рабіць у жыцці тое, што мне падабаецца ды ў чым я ўжо добра напрактыкаваўся — надалей хацелася. А працаваў я ў сваім жыцці і гандлёвым прадстаўніком, і шафёрам.

З другога ж боку, ці не цікава, што зусім незнаёмыя людзі праявілі такую дбайнасць, каб я — чалавек з дыпломам — не займаўся ў жыцці фізічнай працай? Мае кантакты з беластоцкім філіялам буйной польскай фірмы не закончыліся.

У пачатку лютага гэтага года я зноў вычытаў аб'яву той жа фірмы. Змeстам аб'ява ні ў чым не адрознівалася ад лістападаўскай. Я рызыкнуў і аднавіў знаёмства, але на гэты раз не трацію ужо часу і грошай — канверт, марка, здымак... Я ўзяў трубку тэлефона і набраў нумар беластоцкага філіяла буйной польскай фірмы...

Адразу прызнаюся, што павёў я сябе трошкі некультурна — я не прадставіўся з імя і прозвішча. Я запытаўся, ці трэба мне нанава пасылаць сваю заяўку, паколькі ўсе неабходныя дакументы дасылаў ужо ў лістападзе. Я толькі запытаўся, падзякаваў і адклаў трубку тэлефона. Якое ж было маё здзіўленне, калі праз некалькі хвілін застракатаў мой тэлефон, а ў трубцы пачуў я знаёмы жаночы голас.

— Вы дрэнна тлумачыце сабе сэнс нашай аб'явы, — прашчабятаў жаночы голас. — Мы шукаем чалавека з сярэдняй адукацыяй, а ў вас вышэйшая.

Адкуль жаночы голас ведаў, хто я такі. Хіба ж у лістападзе ў беластоцкі філіял буйной польскай фірмы паступіла толькі мая заяўка? Гэтай загадкі я ніколі не рашу.

— Сёння цяжка знайсці працу па сваёй вывучанай прафесіі, дык я хачу перакваліфікавацца, а прытым рабіць тое, што люблю ды што ўжо рабіў, — адказаў я не думаючы.

Сімпатычны жаночы голас не здаваўся.

— Наша фірма не можа даць пасады асістэнта гандлёвага прадстаўніка чалавеку з вышэйшай адукацыяй. У нас у гэтай справе вялікі вопыт, падмацаваны даследаваннямі, паводле якіх асоба з дыпломам не будзе доўга працаваць у якасці звычайнага работнага ды захоча хуткага павышэння па службе.

— Гляньма на гэта перспектыўна, — спрабаваў я бараніцца. — Калі б чалавек на гэтай пасадзе працаваў з вялікай ангажаванасцю, выдатна прычыняўся да павелічэння абароту ў фірме ды выяўляў магчымасці далейшага развіцця, ці ж не знайшлася б для яго лепшая пасада? Гэта ж нармальны шлях у капіталістычным свеце.

— У нашай фірме такой магчымасці няма, бо мы ставім адпаведных людзей на адпаведныя пасады ды ўсе яны ўжо заняты.

На гэтым наша размова і маё знаёмства з беластоцкім філіялам буйной польскай фірмы перапыніліся. Насоўваецца аднак тут адна заўвага — чаму ў фірме, дзе на адпаведныя пасады падбіраюць ідэальных людзей, на працягу трох месяцаў не могуць знайсці асістэнта гандлёвага прадстаўніка? Шафёра, значыцца.

Жыць без працы — няпроста. Але сёння думаецца мне, што я і сам даплаціў бы, каб не працаваць у беластоцкім філіяле буйной польскай фірмы. Мабыць, знайду сабе нешта іншае ў гэтым... гэтак званым капіталістычным свеце.

**Галіна Аўсянюк**

*Назва беластоцкага філіяла буйной польскай фірмы да ведама рэдакцыі.*

# Дарога ў Коматаўцы

У рэдакцыю „Нівы" з'явіўся наш чытач Уладзімір Гедзіч, каб зацікавіць нас дарогаю ў сваю вёску. Пакінуў свой адрас — Коматаўцы 16. Паехаў я туды.

Ужо ад гарадоцкага *Пры-Гарадка* — ад Валілаў-Станцыі — пачыналася чарга аўтафураў да пагранперахода ў Бабpoўніках, якая займала адзін бок дарогі. У адным месцы на другім баку шашы „загразла" таксама аўтафура і трэба было яе мінаць абочынаю і ровам. І ўвесь час трэба было ехаць крайне асцярожна, бо той **міжнародны тракт** ухабісты ды завужаны, пакручасты і хвалісты: толькі і спадзявайся перад сваім кузавам сустрэчнай машыны!

Замахалі да мяне два шафёры; забіраю іх. Гергечуць даволі неразборліва, але ўлаўліваю, што па-нямецку. Пытаю, адкуль яны: Дойчлянд, Швайц? Якое пытанне, такі і адказ: адзін з іх немец, а другі швейцарац. На пытанне пра мэту іх паездкі падае адказ: Moskau. Першы вылез немец. Пытаю яшчэ швейцарца, колькі гадзін стаіць у гэтай чарзе: Віфіль штундэн вартэн зі гір? Achtzehn, адказвае. Вылез ён недзе ў палове дарогі і трэба было спадзявацца, што прастаіць ён тамака чарговыя васемнаццаць гадзін. На другі ці трэці дзень, аднак, чарга выцягнулася аж да Каралёвага Моста і агромністыя машыны грэлі выкіднымі газамі Гарадоцкую гміну на ўсёй яе працягласці. І недзе ў тыя дні па свеце пайшоў ньюс, што ад ледзяной мантыі Антарктыды адвалілася агромністая крыга...

Давалокся я да Бабpoўнікаў, якія я наведаў два гады таму — таксама з прычыны дарогі; тады быў „пехатою". А цяперака „малюхам" на бабpoўніцкай вуліцы прыйшлося мінацца з самазвалам. Грузавік то па ёй едзе, а мне няма куды саступіць. Наехаў я на гурбу снегу, амаль на панадворкавы плот...

Заязджаю ў Коматаўцы, пад дом н-р 16, куды запрашаў рэдакцыю яго гаспадар; засыпаны той дом снегам, не відаць і следу жывое душы вакол яго; пытаю суседку пра ўласніка.

— А ён у Беластоку жыве, толькі на вясну сюды прыязджае, — чую ў адказ.

Пайшоў я тады да солтыса. Солтыс не надта мае час, бо збіраецца ў Гарадок не сесію Гміннай рады. Паказаў мне толькі зварот Гміннай управы ў Ваяводскую ў справе апальнае дарогі. Забіраю я тады солтыса і едзем у Гарадок.

— Вось тут, у даліне, — расказвае мне, — калі ўпадзе дождж, на дарозе збіраецца вада і робіцца балота, якое самаходы распырскваюць на абочыны, утвараючы высокія берагі, як у карыце нейкім — каб збіралася яшчэ больш вады. Часам навязуць гравію, але ён размакае на балота, і самаходы зноў выбіваюць яго на яшчэ вышэйшыя берагі. Вось каб даць сюды цвёрды насціл, пакласці на яго асфальт і зрэзаць тыя берагі, дык і дарога не псавалася б, трымалася б. Калісь, калі коматаўцы былі маладзейшыя, дык мы самі ладзілі гэтую дарогу. Заварот для аўтобуса самі збудавалі; у Зубках былі два прыпынкавыя буданы, войт дазволіў адзін з іх перавезці ў Коматаўцы, дык мы яго там разабралі і ў сябе паставілі. А цяпер старэем, і не маем ужо сілы ладзіць нашу дарогу.

Распытваю солтыса пра вясковую дэмаграфію. У Коматаўцах дваццаць тры „сям'і" і дваццаць восем душ: значыць прынамсі васемнаццаць тых сем'яў — аднаасабовыя! У іх ліку і мой суразмоўца, якому не ўдалося ажаніцца. Трымаюць яшчэ восем коней, ёсць адзін трактар. Маладых няма, успамінам па іх толькі будынак колішняй сямігодкі на канцы вёскі...

Дабіраемся ў Гарадок. Пра дарогу ў Коматаўцы пытаю адказнага за камунікацыю працаўніка Гміннай управы.

— Тую дарогу павінен ладзіць ваявода, — сказаў ён, — бо псуюць яе будаўнікі пагранперахода, а гэта ж не гмінная інвестыцыя. Мы ўжо колькі разоў звярталіся ў ваяводства, і нам адказваюць, што будуць ладзіць, калі завершаць пабудову. А вы да мяне ад войта? — спахапіўся ўраднік.

— Не, я ў войта не быў яшчэ, — адказваю.

— Я без яго згоды не магу вам нічога гаварыць...

Войт быў на сесіі Гміннай рады, якая, як мяне паінфармавалі, мела яшчэ доўжыцца нейкія дзве гадзіны. Паеду, рашыў я, недзе ў вёску, мо што цікавага пабачу, і вярнуся калі ўжо войт будзе вольны. Зрабіў я так як думаў, вярнуўся, але зноў мне гавораць, што яшчэ дзве гадзіны...

— Зайдзіце да яго ў залу, — параіў мне „мой" солтыс, які ўжо пакінуў сесію, каб паспець на апошні аўтобус у Коматаўцы.

Заглянуў я ў тую залу, а там атмасфера заангажаванасці, быццам на набажэнстве неафітаў. Адступіў я, чужы, і вырашыў наведацца да войта ў нейкі іншы дзень. Але раздумаўся: бо што ж мне новага войт скажа, мо толькі пакажа крыху больш, чым я ў солтыса бачыў, паперак. І ў Ваяводскай управе, асабліва цяпер, таксама нечага шукаць, бо там пэўна пакажуць на Варшаву. А ў Варшаве — што грошай на пагранпераход чакаюць з Бруселя. А з брусельскімі бюракратамі напэўна я не дагаварусь, калі ледзь звёў язык з нямецкамоўнымі шафёрамі.

Нашым жа шаноўным землякам, якія не хочуць праводзіць лета ў Беластоку, раю прывыкаць ужо да новых курортаў: Рыо-дэ-Жанейра, Акапулька, Ганалулу. Бо куды ім будзе пазней ехаць, калі пад паперкамі, балотам і дзірваном схэне наша ўсходняя сцяна?

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Рапарт з вёскі

Даўнавата, недзе за першай „Салідарнасці", адбылася вельмі кароценькая гутарка бацькі, Івана Б., з сынам.

Ваня, першародны сын, у думках бацькі наследнік даведзенай ім да неблагога выгляду гаспадаркі, збіраўся паехаць у Амерыку. Як сам гаварыў: „На тры, чатыры, а мо пяць гадоў. Падзарабіць, прыдбаць большыя грошы, каб тут разварушыць нейкі бізнес". Хацеў пакінуць маці, бацьку, гаспадарку, а таксама (а можа перш за ўсё) маладую жонку з двухгадовым сыночкам. Бацька, чалавек вопытны і па-сялянску непасрэдны, сказаў яму так: „Сынок, калі паедзеш — будзеш мець Амерыку толькі Паўночную. А і то неабавязкова. А калі не паедзеш, а паставіш сваю жоначку ракам, то кожную ноч, кожны дзень, у любы момант будзеш мець Амерыку і Паўночную і Паўднёвую, а яшчэ і Сярэднюю. Выбірай — або ўсё тут, або, мабыць, нічога там". І тут сын, задумаўшыся, адказаў: „Гаварыў і раіўся я з многімі, не праспаў не адну і не дзве ночы, браў пад развагу рознае, але з гэтага боку да справы не падышоў. Бацька, ваша праўда. Навошта шукаць Амерыку, калі яна так блізка".

Пачаў Ваня рабіць так, як, пасрэдна і непасрэдна, падказаў яму бацька. Вынікаў трэба было крыху пачакаць, але... „Было хіба варта, глянь", — гаворыць. Гляджу, ходзячы хвастом за гаспадаром: хата, якую зрэдку сустрэнеш і ў горадзе, два камфартабельныя легкавыя аўтамабілі, чатыры вялікія трактары і ўсе патрэбныя машыны, пасусветнаму наватарскія тэхналогіі ў таких жа гаспадарскіх збудаваннях; камп'ютэры не толькі ў хаце, і яшчэ, і яшчэ. Словам, усё, каб весці спецыялізаваную гаспадарку на некалькіх дзесятках гектараў і спакойна чакаць Унію. „І найважнейшае, — гаворыць Ваня, — другі сын і дачка!" Што цікава, пабываў ён і ў Амерыцы. З жонкаю і з дзяцьмі скалясілі амаль увесь свет, а сёлета збіраюцца пабачыць Аўстралію. На маю, ад здзіўлення і недаверу да ненатуральнасці перамененую і запытальную міну, ён адказаў: „Усё магчыма, браток, усё".

Мудры бацька, працалюбівы чалавек і сялянскі філосаф Іван Б. два гады таму памёр. Без яго, ягонага здаровага падыходу да жыцця многае ў Ваневым лёсе было б нездзяйсняльным. „А я, думаю, не быў бы шчаслівым чалавекам у шчаслівай сям'і. Вялікі дзякуй, Вам, Тата".

**Яўген Бялькевіч**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста*

У Беласток завіталі філіпінскія „бяскроўныя хірургі"

# З імем Ісуса

**— Вы гэтым цікавіцеся? Верыце ў гэта? — зачапіў мяне ў чарзе да філіпінскіх логургаў рэпарцёр з Радыё Акадэра.**

**— Мяне цікавіць тое, што і чытачоў. А прывяла мяне сюды перш за ўсё цікаўнасць. А веру ў тое, што любоў і дабрыня — гэта істота Жыцця.**

Але калі я ўжо ляжу на канапцы, а нада мною нахіляецца, з малітвай на вуснах, нізкаросны цёмнаскуры маладжавы мужчына, а пасля дакранаецца да маёй галавы і ягоныя пальцы заглыбляюцца (чую!) у мае вантробы, я гатова ўцякаць! Ды позна! Вось дастае з майго горла шчытавідку. Вось чую: тр-р-р-рах! — як быццам хтосьці дзёр матэрыю ці ламаў косць — гэта логург дзейнічае ў маім правым баку. І штосьці хлопнула ў тазік з левага боку маёй галавы. Ці не мой жаўцявы пухір?! Адчуваю, як штосьці мокрае плыве па маім жываце. Некалькі рухаў далонаў хірурга, штосьці гарачае — націрае тое месца аліўкай. І яшчэ тут і тут. Верць далонмі — перавярніся. Пазваночнік. Ой, мой застарэлы радыкуліт! „Полі?" — дапытваецца доктар. Ай, пэўна, баліць невыносна!



Астаюцца на целе ружовыя сляды там, дзе інгераваў філіпінец. І радасць, ахвота смяяцца. І спакой. Ды два дні невыноснага болю ў тых месцах, дзе калісьці балела. Але ж трэба верыць у тое, што бачыш і што нармальнае? Зраблю ультрасанаграфічныя, рэнтгенаўскія здымкі, у лабараторыю здам кроў... А як жа ж!

І, вядома, здымкі. Не дазвалялі іх рабіць журналістам, але мне, з невядомай дапамогай, дазволілі. На іх выразна відаць. А ў спецыялістычных часопісах пішуць, што, бывае, нейкі туман закрывае кадр? Гэта, кажуць, тая энергія і выклікае завіраванні.

Калісьці Люцына Вінніцкая ў „Przekroju" пісала тое, што ўбачыла сваімі здзіўленымі вачыма. Бо як жа ж у такое паверыць: як без хірургічных прылад дастацца ўглыб цела, дастаць адтуль кавалак тканкі ці гузік? У час такое аперацыі багата плыла кроў, але хапаў жэст хірурга, і рана закрывалася. У сваёй кніжцы „Падарожжа вакол святое каровы" размаўляла з аўтарам кніжкі „Філіпінскія аздаравіцелі. Аб пранічным, ментальным, спірытычным і боскім аздараўлянні". Сказаў ён: „Я моцна веру, што надыходзіць час, калі артадаксійныя лекары самі накіруюцца да лекараў духоўных, і ў згодзе будуць весці хворага да аздараўлення. Ніякія лякарствы не будуць прыносіць вынікаў без веры пацыента ў аздараўленне. Гэта не медыцына лечыць, а розум чалавека, які, веруючы, што будзе здаровы, перадае загад свайму целу. (...) Тэрапія, пакуль прынясе палёгку, мусіць быць адобрана хворым. Кожны з нас носіць у сабе лек на ўсе хваробы. Мы ўсе самі можам аздаравіцца!" Сярэдні чалавек, як падкрэсліваюць і аздаравіцелі, так і даследчыкі гэтае з'явы, не мае спалучэння з Крыніцай, іначай — Найвышэйшай Моцай, Богам, Абсалютам, і патрабуе пасрэдніка, Аздаравіцель становіцца такім спалучальнікам паміж Богам і чалавекам, які патрабуе аздараўлення, — падкрэслівае Тод Дыксан у кнізе „Моц аздараўляння". Таму філіпінскія лекары кажуць, што яны — толькі інструмент у Божай руцэ, і не яны лечаць, а Ісус...

У кабінет увах0дзіць хлопец з моцным прыкрычам правай далоні. Не можа распрастаць пальцаў. Праз пару хвілін выходзіць, радасна махае здаровай далонню. У людзей з чаргі паяўляюцца на вачах слёзы...

Пад канец 1996 г. у Польшчы быў праездам славуты філіпінскі хірург **Хазэ Сегунда**. У Кракаве сустрэўся ён са слухачамі курса біятэрапіі. Запрэзентаваў ім „класічную філіпінскую аперацыю". Сегунду запрасілі на Эзатэрычны фестываль у Кракаў, а пасля прымаў хворых у Калішу, Катавіцах, Гданьску і Кракаве. Мела магчымасць сустрэцца з ім Анна Глагоўская. „Спачатку паглядзеў маю аўру, ці не буду мяшаць яму ў час аперацыі, завіроўваць ягонае энергетычнае поле, — расказвае. — Я прыглядалася ягоным пальцам, сачыла за кожным рухам. Стаяла блізка, з другога боку канапкі, на якой ляжаў пацыент. Тэхніка аздараўляння была розная. Вось працаваў з вачамі. Гэта былі ўламкі секундаў, але ён сапраўды трымаў над вачніцай вока, а другой рукой сцягнуў нешта з паверхні. Раз аперацыі былі крывавыя, раз без крыві. І дарослыя, і дзеці ўставалі злёгку ашаломленыя, пасля была жывая радасць, нават вясёласць. Хазэ Сегунда паўтараў: „Перад кожнай аперацыяй логург просіць дапамогу ў Бога і дзейнічае з дапамогай Духа Святога. І няважна, што прымяняю: бяскроўную аперацыю, энергетычнае дзеянне, масаж, націранне травамі ці даю піць лячэбную заварку, выконваю з хворым толькі частку працы, рэшта гэта ягоная вера, малітва і Божая воля. Еўрапейцы, хоць лічаць сябе веруючымі, не вельмі ўмеюць маліцца і самі вырошчваюць у сабе столькі хвароб!"

Хазэ Сегунда ў наступны раз пабываў у Польшчы з іншымі логургамі, што працуюць з ім у клініцы ў Багіё — **Гары Лукінгемам і Рудольфа Лігліёнам**. Некаторыя польскія біяэнергатэрапеўты вельмі скептычна ставіліся да сваіх калег, рашылі іх тэставаць. Паказвалі, напрыклад, у сябе ці ў хворага месца здаровае, але філіпінцы браліся адразу за тое, што патрабавала лячэння.

Паколькі іх метад выклікаў неверагодна вялікае зацікаўленне ў Польшчы (былі такія людзі, што, нягледзячы на дарогу, ехалі нават на Філіпіны ў клініку ў Багіё!), грудзёндзкая фірма запрасіла яшчэ некалькі разоў філіпінцаў у нашу краіну (восенню зноў прыедуць у Беласток). Людзі прыходзяць з рознымі хваробамі: і з ракам у апошняй стадыі, гузамі, з камянямі, але і з зусім „несур'ёзнымі" захворваннямі і клопатамі. Назаўтра пасля візіту шмат асоб адчувае вялікі боль. Бывае, што прарываецца гной цераз вочы, вушы і нос, бываюць паносы, ваніты. Гэта, кажуць логургі, „прарываецца" хвароба, ачышчаецца арганізм. Памалу выходзяць камяні, якіх не змог рушыць лазер. Філіпінцы не кранаюць толькі неўралагічных і псіхічных захворванняў. Што цікава, больш за 10 прац. пацыентаў — гэта ўрачы!

Гары Лукінгем вядзе на Філіпінах таксама клініку для найбяднейшых. Апрача таго, што ведае філіпінскія сакрэты, ёсць доктарам альтэрнатыўнай медыцыны, акупунктуры і фітатэрапіі.

...Выходзіць жанчына, якая мела на руцэ гуз. Яшчэ не верыць у тое, што бачаць усе: там, дзе быў той гуз, цяпер толькі ружовая рыска.

— Гэта хрысціяне. Моляцца так шчыра, — кажа і паказвае картачку: „Jesus".

— Яны — такія добрыя, лагодныя людзі, — кажа пані Бажэна Тарасевіч з Беластока. — Ужо сама сустрэча з імі дае столькі радасці і супакою. І не трацяць яны энергіі, як іншыя экстрасенсы. Быццам увесь час падключаны да тае Усямоцнае Крыніцы. Бо гэта Божая моц лечыць людзей.

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# Жамчужыны беластоцкай прыроды

Намаганнямі ваяводскага рэстаўратара прыроды ў Беластоку нядаўна з'явілася выданне „Прыродазнаўчыя аб'екты Беластоцкага ваяводства пад аховай". У супольнай аблоцы знаходзім брашуру, у якой падаюцца асноўныя інфармацыі аб тых жа аб'ектах і карта (маштаб 1 : 200 000) — адлюстраванне іх размяшчэння.

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства зараз маем тры нацыянальныя паркі: Белавежскі, Бебжанскі (часткова распалажаны таксама ў Сувальскім і Ломжынскім ваяводствах) і Нарвянскі (часткова ў Ломжынскім ваяводстве). Затым 52 запаведнікі прыроды (займаюць яны каля 8 тыс. гектараў плошчы), адзін Ландшафтны парк з Кнышынскай пушчы, чатыры абшары краявіду пад аховай (Белавежская пушча, Даліна Нарвы, Сакольскае ўзвышша, Даліна Буга), адна прыродазнаўча-краявідная плошча („Глогі" ў гміне Мельнік), 107 экалагічных ужыткаў (багнавыя экасістэмы на тэрыторыях Белавежскай пушчы, горада Гайнаўкі і гміны Тыкоцін), а таксама 1 450 помнікаў прыроды.

Польскі тэкст брашуры перакладзены таксама на англійскую і нямецкую мовы. Умоўныя знакі на карце, апрача спамянутых моў, падаюцца і на рускай мове.

**Пётр Байко**

На мой розум

# Жыццё і медыцына

— То як жыццё, дзядзька Ліяш?

— А думаю я сабе так і думаю — мае чалавек права на шчасце ці не мае? Ці апрача Бога, толькі ён мае права на сваё жыццё, ці з'яўляецца яно ўласнасцю іншых?

— Ну, дык вы што? Зразумела, што мае. Інакш не быў бы чалавекам, а жывёлінай.

— А я думаю, што не зусім чалавек з'яўляецца ўладальнікам свайго жыцця і больш кіруюць ім іншыя. Людзі цяпер кволыя — і целам, і душою. Сяджу я яшчэ ў дачкі, ад Каляд, і так сабе разважаю, гледзячы тэлебачанне. А там праграма „Хатні лекар" ідзе. І чую, што ў Польшчы значная колькасць людзей пакутуе ад шызафрэніі. Хвароба сур'ёзная. У прыпадку такі хворы можа забіць другога, можа яго моцна пакалечыць. Чаму тады не лечаць? — думаю. А яны, быццам бы прадбачылі мае мыслі, праз некалькі хвілін паяснілі, што хвароба гэта невылечная. Можна толькі паўстрымаць яе. Аднак трэба пастаянна прымаць лекі, а месячны кошт лячэння складае 350 злотых. Усе хворыя — пенсіянеры па інваліднасці. Ну, і што ты на гэта скажаш? Калі сам будзеш кіраваць сваім жыццём — значыць пасмяротна дурны, хаця можа і пасвойму шчаслівы. Выхад нібы ёсць, але не маючы грошай і так будзеш дурным. Так яно ўжо ёсць — хаця ідзеш з гары, то і так будзе пад гару. Зусім, як у турме — нават лежачы, сядзіш.

— Нельга ўжо, дзядзька Ліяш, так усё на адну ноту.

— То я табе скажу — усе мы танцуем, як нам зайграюць. Захварэла мая пляменніца, не дазваляючы мужу выклікаць хуткую дапамогу. Назаўтра згадзілася. Тры гадзіны ехалі і не маглі прыехаць. Муж і прыспешваў, але не памагала. Урэшце знерваваўся і пазваніў лекару прыватна. Адклікваючы хуткую дапамогу пачуў ён у трубцы шчабятлівы голас: „А што, можа памерла?"

— Так сказала?

— А чаго такі здзіўлены? Яны да гэтага прывыклі. Нядаўна быў выпадак, калі 15-гадовая дзяўчынка выклікала хуткую да паміраючай маці. А ведаеш, чаму не прыехалі? Таму толькі, што тэлефанавала непаўналетняя. І памерла. А дырэктар хуткай дапамогі сказаў: „І так памерла б, бо была хворая".

Значыць, прыехаў гэты прыватны лекар. З гадзіну сядзеў. Абследаваў, мераў, нейкія апараты падключыў. Займаўся дакладна. Адным словам, як вясковая бабка-шаптуха. Урэшце паклікаў мужа і кажа, што трэба, моў, дэталёвых абследаванні парабіць, даў накіраванне ў паліклініку і загадаў везці хворую ў гарызантальнай пазіцыі, значыць хуткай дапамогай. Сам выклікаў. Таму можа яна аказалася і хуткай. Ад самай раніцы да вечара кабету трымалі. Жмут вынікаў надавалі, а нарэшце казалі сесці бліжэй вешалкі, павесілі кропельніцу і прыказалі не варушыцца. У канцы мужа паклікалі. Муж і пытае, што моў за прычына. А лекар, каля якога з дзесяць шчабятлівых практыкантак, паціскае плячыма і кажа: „Не ведаю". — „Ёсць жа вынікі з камп'ютэрных комплексных даследванняў", — кажа муж. „Можа дрэнна зрабілі, — ён яму на тое. — Найлепш у шпіталь. Можа нешта знойдзем. Папрывыкалі толькі дармова ўсё мець. Каб прыйшлося заплаціць, дык і хварэць перастала б".

Во, бачыш, якое чалавек мае права на сваё жыццё. Дальбог, калі б неабходна трэба было выбраць хатняга лекара, выбраў бы шаптуху.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Парнасік

## Сакавіцкія жарты

Сакавік такі месяц,
Аб тым кожны знае:
Ён зіму з летам
У нас пераплятае.
Часам сонца грэе
І цёпла бывае,
Часам так марозіць,
Ёсць зіма ліхая.
У сакавіку нам трэба
Да ўсяго рыхтавацца:
Часам авёс ужо сеяць,
Ці ў валёнкі абувацца.
(У нас цяпер прырода
Усё перамяніла,
І нават красавік
Ў зіму ператварыла!)
І ёсць такое свята,
Пра што добра знаем,
Што хоць маленькую кветку
Для жанчын купляем.
Пад канец таксама
*40 мучанікаў* бывае,
Але нашы жанчыны
Пра тое забываюць...
Кабетам здаецца,
Што мусіць так быць,
Што кожны мужчына
Мусіць кветку купіць.
А калі мужчына
Сваё свята святкуе,
Ён тады дахаты
П'яны прывандруе.

**Мікалай Лук'янюк**

## Лес і наша годнасць

Лес, свой ці чужы — няважна,
Любіць і цаніць яго — гэта важна!
Ён граніц не мае —
Аднолькава чыстае паветра нам
пасылае.
Ці гэта лес мой, твой, дзяржаўны,
Ён зялёны, прыгожы і слаўны.
Гэта не лес сябе, а мы яго губім,
А пасля, як неразумныя, трубім
Што лес сохне і рэдкі.
Гэта чалавек прагны і меткі
Рэжа яго, эксплуатуе
І дзеравам таргуе.
Крадзе і на яве
За капітал знойдзе ён славу
Пакуль іншы жулік з ім
не расправіцца,
Бо цяпер цэлы свет такімі гульнямі
славіцца.
Хімікаты забруджваюць ваду
І прыносяць спусташэнне ды біду.
Злодзей і браканьер
Горшыя, чым найгоршы звер.
А лясныя пажары —
чалавечая неасцярожнасць:
І дзе наша цывілізацыя і годнасць?
А пасткі хто настаўляе,
У якіх звярына ў муках прападае?!
Такіх людзей лічу забойцамі,
яны горшыя ад скарпіёнаў
І ад ваўкоў — яны варты
вечнага праклёну.
На жаль, улада гэтым не цікавіцца
І з цёмным элементам толькі бавіцца.
Калі край — крадзі далей,
Толькі хітра і смялей!

**Мікалай Панфілюк**

# Крыжаванка



**Вертыкальна:** 1. напр. стрыхнін, 2. доўгая прыўзнятая прамова, 4. Яні, алімпійскі чэмпіён з Нагана па скачках з 90-метровага трампліна, 5. прывабнасць, 6. драпежная акіянская рыба, 7. праз гэтую раку Харон перавозіў душы памерлых, 12. Ларыса, алімпійская чэмпіёнка з Нагана ў лыжных бегах на 5 і 10 км, 14. чацвёртая частка кварты, 16. халодная пара года, 17. на ліванскім сцягу, 18. прыстасаванне для счэплівання вагонаў, 19. аўтар „Палескіх рабінзонаў", 21. вапнавая горная парода з ракавін марскіх жывёл, 24. „галатвярая" трапічная малпа (*Cacajao*), 25. гарады бярэ, 26. рот звера, 27. сукупнасць, 28. вялікая азіяцкая дзяржава. **(Ш)**

**Гарызантальна:** 3. колішні сібірскі налог, 8. Пікаба, алімпійская чэмпіёнка з Нагана ў слаламе-гіганце, 9. зборнік паэзіі Уладзіміра Гайдука з 1971 г., 10. паўднёвы яблыкападобны плод, 11. паміж дзвюма лініямі, якія выходзяць з аднаго пункта, 13. сварка інтрыганаў, 15. Ольга, алімпійская чэмпіёнка з Нагана ў лыжным бегу на 15 км, 16. дарučэнне на выкананне, 20. адступніца ад афіцыйных царкоўных догмаў, 22. сістэма ведаў пра здароўе, 23. труба канічнай формы для ўзмацнення гукаў, 27. ляжалая груша, 29. аўтар „Дон-Жуана", 30. кайданы (мн. лік), 31. грашовая адзінка в'етнамцаў, 32. два змацаваныя на шарніры стрыжні для сціскання (мн. лік), 33. ільдзіна, 34. яравая пшаніца.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Міні-даведнік:** уакары — шырканосая малпа Амазоніі.

**Адказ на крыжаванку з 3 нумара:**

**Гарызантальна:** Калыма, Рыхтэр, нагляд, Машо, Арль, прапінацыя, Аман, неба, „Аберон", Арарат, Гегель.

**Вертыкальна:** карчма, мана, Рыяд, Эркель, глыбінямер, Шопран, арыяне, аматар, Базель, абат, Онге.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Міхалу Байко** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Міленькі Астроне! Ізноў прыснілася мне, што нехта мяне гоніць. Я ўцякаю па вуліцы, не ведаючы, ад каго. Мне страшна. Няма таксі, няма нікога. Пуста.

Але вось я ўжо ў нейкай кватэры, але не хаджу па падлозе, а сяджу, быццам на вышках у стадоле, якія знаходзяцца амаль пад столлю, у гэтай хаце. Ізноў тая праклятая вышыня, якая сніцца мне ў апошні час вельмі часта.

А на дадатак на гэтых вышках усё застаўлена варанай рыбай. Яна тут знаходзіцца ў розным посудзе: у каструльках, у брытфанах, у місках. Найбольш варанага карпа і шчупакоў. Мне няўручна, седзячы на куцках, перакладаць гэту рыбу ў талеркі.

Мы чакаем гасцей. Дачка і зяць дапамагаюць мне. Трэба пералажыць рэшту рыбы. Зяць узяў адну брытфану і вывернуў яе, але на шчасце, рыба не развалілася, ляжыць цэлая.

Вось я ўжо ўнізе (не ведаю, якім чынам мне ўдалося туды сысці). Мы ўсе разам падаем стравы на стол. На стале стаіць прыгожая ружачка, а мо гэта півонія ці астра. Кветка стаіць у вазачцы, а вазачка — у місцы. Вазачка, аднак, не стаіць стабільна, а калышацца на няроўнай паверхні міскі. Я забрала з-пад яе тую міску. Цяпер яна стаіць роўна.

Думаю, што я зноў высніла нядобрае, Астроне.

**Яня**

Яня! Сапраўды, уцякаць ад некага — нейкая небяспека, кепскае падарожжа. Мёртвая рыба (і вараная, і смажаная, і вэнджаная) прадвяшчае калі не хваробу страўніка, дык абавязкова непрыемнасць. Можа яна датычыцца ў нейкай ступені цэлай сям'і, бо ў сне прысутнічалі і твае дзеці. Ты разам з імі чакала гасцей і для іх была нарыхтавана страва. А гэта абазначала б, што нехта праследуе цябе, поўны зайздрасці, злосці і нянавісці.

Крыху надзеі ўсяляе ў сэрца факт, што ты з гэтых вышак сышла ўніз. Значыць, што ты, бадай, усе цяжкасці пераможаш. Ну, і тая кветка ў вазачцы. Бачыць вазу з кветкамі — выбранае месца ў грамадстве ці поспех. На жаль, тваё становішча, здаецца, у нейкай ступені, пахіснулася, але табе ўдасца ўсё выраўняць. Сама ж бачыш, што ты тую міску з-пад вазачкі забрала, і цяпер яна стаіць роўна.

**Астрон**

<u>Думкі дзеда Антона</u>

# ... наконт свята жанчын

Набліжаецца восьмае сакавіка. Якое свята гэта калісьці было! Святкавалі, аж міла было паглядзець і паслухаць. А колькі спраў пры нагодзе свята ў гміннай управе можна было аформіць! Калі каму патрэбны трактар ці нейкая іншая машына, тады бярэш кветку ў адну руку, шакаладку ў другую і ідзеш да нейкай важнай пані ў гміне і справа накіроўваецца на добрую дарогу. Хапіла толькі гэтага дня пільнаваць, а ўвесь круглы год можна спаць спакойна.

А цяпер... Не дай Бог! Калі я сабе пенсію афармляў, хацеў даць адной „пані дохтар" вялікую бамбанерку з шакаладкамі і букет кветак, бо якраз восьмае сакавіка было. Я да яе як да чалавека, жанчына ж, вядома. Дзень добры сказаў, боты пацягаў па той шмаце, што ляжала перад парогам, нос высмаркаў, шапку зняў, кланяюся нізка і ўсміхаюся, аж чатыры мае зубы далікатна паблісквають у роце. А яна... як не кінецца! „Забяры свае кветкі! — крычыць. — Нам камуністаў тут не трэба!" Прычым тут камуністы, я не ведаў (яе бацька, праўда, то першым сакратаром партыі ў нашым павеце быў, але камуністам яго не называлі і не называюць). Я да яе:

— Пані дохтар, я да вашага бацькі нічога не маю.

Яна яшчэ галасней пэльку пачала дзерці, як не дохтарка, але найзвычайнейшая вясковая дурніца, што за мужам у краму прылцела:

— За абразу майго бацькі я вас у суд падам! — закрычала, пра камуністычныя звычаі талкавала, а на канец сказала так: — Камуністычныя парадкі вы ўявілі і цяпер яшчэ хочаце, каб яны існавалі, калі ўвесь свет на нас глядзіць!

Дзерлася яна не горш Лізы-прыдуры, што за вёскай жыве. А калі сціхла, я спытаў:

— Пані, а канкрэтна то што: вам кветкі ці шакаладкі не падабаюцца?

— Камуністычнае свята мне не падабаецца! — крыкнула яна і замоўкла.

Я аслупянеў. Гэта, значыцца, Маркс, Энгельс разам з Леніным і дапамогай Сталіна кветкі жанчынам-камуністкам уручалі? Я там у гісторыі завельмі не разбіраюся... Можа, чытачы „Нівы" гэтую справу мне паясніць змогуць? Чым я тую дурніцу абразіў, па сённяшні дзень не ведаю. А пенсію мне і так далі, хаця шакаладкі сам з'еў, а звялыя кветкі выкінуў.

**Выслухала і запісала Іаланта Грыгарук**

# Асяродак дзюдо

У Гайнаўцы па вул. Ю. Пілсудскага 2 адкрылі макрарэгіянальны мазурска-варшаўскі асяродак дзюдо. Абсталявалі яго між іншым спецыяльнай матай за 46 тысяч злотых і іншымі спартыўнымі прыладамі.

У Гайнаўцы будуць праходзіць лагеры лепшых дзюдаістаў з васьмі ваяводстваў паўночна-ўсходняга рэгіёна. Весці іх будуць найлепшыя трэнеры з усяе Польшчы. Неўзабаве госцем у гайнаўскім асяродку будзе алімпійскі майстар дзюдо Павел Настуля.

Варта дадаць, што дзюдаісты са спартыўнага клуба „Пушча" ў Гайнаўцы сталі ўжо вядомымі ў нашай краіне, у тым ліку дзяўчаты: Эмілія Шульц, Ідарыя Грынчук, Эва Волінская, Сільвія Базылюк і Магда Амбразевіч ды хлопцы: Радаслаў Зайкоўскі, Себастыян Бедзь, Пётр Стэц, Юры Кулік, Павел Татарыновіч, Міхал Сірак, Данель Жак і Караль Вакулюк. Трэніроўкі праходзяць пад кіраўніцтвам трэнера Якуба Астапчука. **(гай)**


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax 435 022.
Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.
**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na II kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2 zł, a kwartalnie — 26 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Фрашкі пра нашых**

## Дыска-беларуска

Кожны мае мець
такую музу,
На якую сабе
заслужыў.
А тая муза займе
таго мужа,
Які яе
на свой талент
славіў.
Спяваў Папялушцы
пра зару над лугамі,
Прынцэсаю зваў,
у сваё княства маніў,
А дзеўку з калгаса
назваў сваёй паняй,
А *Коласа* ўзяў
на *disco* змяніў.

**Вандал Арлянскі**

## Сентэнцыі Барыса Руско

* Пасля бурнага сну астаюцца шматкі явы.
* Пад страхой і сонца робіцца больш пагодным.
* Беспамылковая картатэка толькі ў смерці.
* Каханне як птушка — у клетцы гібее.
* Каб рыбы плакалі, мора выйшла б з берагоў.

# Ніўка



*Пагаворым пра літаратуру.* Малюнак Алега КАРПОВІЧА

# Літфак

Даўно не быў я ў Варшаве і напала на мяне ахвота звалачыцца ў сталіцу. Пацягнуўся я тады на чыгуначны вакзал, купіў білет і залез у купэ. Сядзелі там ужо сівенькая бабулька і мужчыны: траіх каля пяцідзесяткі і адзін каля дваццаці. Цягнік рушыў, мужчыны паўтыкалі насы ў розныя паперы, а бабулька перажагналася і заўважыла:

— Толькі адна кабета, а ўсе мужчыны...

— І вельмі добра! — буркнуў пад носам маладзён, задаволены, што ніякія бабы ляснаннем сваіх языкоў не будуць перашкаджаць яму зглыбляць газетныя мудрасці.

Смаркач неаперааны, ён думае, што ўсе розумы пераеў! Яму здаецца, што калі бабулька старая, то і нічога цікавага ўжо не ў змозе сказаць. А яна напэўна ж калісь была маладою дзеўкаю, і, як кожная маладая дзеўка, колькі яна сваімі кругленькімі клубамі вымяла высокай травы і жыта! А сёння тыя ўгоддзі ляжаць аблагом, а маладыя таўкуцца ў неэкалагічных гарадах.

Замоўкла бабулька, аддаючыся сваім гарачым успамінам, толькі шум поезда і лёгкі стук колаў далікатна пранікаў у вушы. Мой нос паволі набліжаўся да газеты, перад вачыма прабеглі дзве авечкі і некалькі бараноў за імі...

— Піва лежайске, сувайске, піво, піво! — абудзіў мяне крык вагоннага разносчыка.

Працер я вочы і выглянуў праз акно: поезд стаяў на Усходняй. Купэ было пустое, мае спадарожнікі павысаджваліся тут. Пачаў і я памаленьку збірацца. Зняў з полкі сваю сумку і заўважыў, што на полцы ляжыць яшчэ нейкая папка. Выглянуў я на перон, але нікога з пасажыраў майго купэ не было ўжо відаць. Давай, думаю, пабачу, што гэта за папка. На вокладцы, побач надруку „Дело №...", было яшчэ размашыста напісана „Трохквартальны альбанах". Заінтрыгавала гэта мяне і схаваў я тую папку ў сумку, бо разглядаць яе змест не было як: поезд ламатаў ужо ў тунелі.

Варшава выглядае цяпер горш пекла, калі нават такое існуе; жыць у ёй — гэта адна пакута толькі! Не здзіўляе мяне, што ў вялікіх гарадах людзі перасталі баяцца пякельнай смалы і бязбожнічаюць. Доўга я там і не пабыў, зноў схаваўся пад зямлю і ў поезд назад!

Вярнуўся я дадому стомлены, лёг у пасцель, але і сон не бярэ... Давай я даставаць тую папку з сумкі, усярэдзіне было шэсць лісткоў паперы. Ахінуў іх вокам і не магу пра іх змаўчаць: змест іх быў такі родны!

На першай картцы было:

*Белавежскія дзяўчаты*
*Стройныя, цыцатыя.*
*Ногі іх быццам сосны —*
*Небаносныя!*
*Іх грудзі — кроў з малаком...*
*Каб мне матылём-камаром —*
*Паляцець бы за такою,*
*Насмактацца сырадою.*

Змест другое карткі таксама цікавы:

*Па пожні счарнелай,*
*па з'езджаным полі,*
*Па камені гострым, па камені гладкім...*
*Як цяжка таму, хто вып'е найболей,*
*Далезці дадому, паспіваўшы астаткі.*
*Не давайце таму, хто ходзіць*
*па пожні*
*І абдзер да крыві і рукі, і ногі!*
*Вось там іншы ідзе з кілішкам*
*парожнім*
*І, не меўшы надзеі, крычыць*
*да знямогі.*

Іншы па характары змест трэцяй карткі:

*Клінтан — прэзідэнт Амерыкі,*
*Робіць розныя выбрыкі.*
*Грае ён на саксафоне*
*І жыве у Вашынгтоне.*
*Ногі на сталe трымае,*
*Кока-колу папівае.*
*Час ад часу, мімаходам,*
*Выпівае віскі з лёдам.*
*Ну а чыпсы, гамбургеры*
*Есць ён без ніякай меры.*
*Любіць ён капіталізм,*
*А таксама імперыялізм.*
*У Белым доме яму рай,*
*Што жывi і не ўмірай.*
*Мае ён стажоркі,*
*Што пачынаюць ад распоркаў.*
*Ёсць там і бабы іншыя,*
*Таксама не лішнія,*
*А і дзеўкі першыя*
*Таксама не лепшыя.*
*Вядзе ён з імі малацьбу,*
*Свайго роду барацьбу;*
*Смела вядзе бабскі бой.*
*Клінтан — прэзідэнт-герой!*
*Гэтым вершам ў Вашынгтон*
*Шлю яму шчыры паклон.*

Пранікнуты тонкаю лірыкай змест чацвёртай карткі:

*— Ты — цаца!*
*— І ты — цаца!*
*Цмок-цмок.*
*Цап, лап.*
*Мац-мац.*
*Рак'. Фак',*
*Мох, здох.*
*— Ах, ах,*
*Мой птах!*

Змест пятай карткі пранікнуты дынамікай:

*Халодныя воды Балтыйскага мора*
*Ў высокі ўздымаліся вал.*
*У стройнай шарэнзе стаялі лінкоры,*
*Чакалі на першы сігнал.*
*І вось стрэл сігнальны раздаўся*
*з гарматы,*
*І, быццам спыняючы шквал,*
*З рукою са шклянкай высока паднятай*
*Стаяў мой зямляк-адмірал.*
*Глядзеў ён у далеч, у сіняе мора,*
*І думаў пра лён, васількі,*
*І „роднай" стакан прапусціў ён*
*праз горла,*
*І кіслым гурком закусіў.*
*Прайшло многа год, даўно кінуў мора*
*Зямляк мой, і розны меў лёс.*
*Ды толькі пачні гаварыць*
*пра лінкоры —*
*У ім ажывае матрос.*

Зусім адметны змест апошняй, шостай карткі:

*Jestem stuprocentowym Białorusinem, i nieustannie zadaję sobie pytanie, dlaczego Białorusini wręcz zapierają się swojej narodowości. Jeśli za mojej niedawnej pamięci białoruszczyzną kipiała powszechnie mieścina moja, jeno ksiądz proboszcz mówił po polsku, aliści dzisiaj tej dawnej mowy ojczystej i ze świecą tam nie uświadczysz. Znam mnóstwo Białorusinów, którzy przepoczwarzyli się w przeciwległą formację narodowościową, kierując się wyłącznie niewiele odbiegającą od zwierzęcego instynktu „filozofią żołądka". Czymże jest porzucanie własnej narodowości, jak nie odchodzeniem od języka ojczystego? A kimże są ci elitarni polskojęzyczni Białorusini? Ich polskojęzyczność jest ześlizgiwaniem się w obcość, asymilacją bez żadnego „ale"!*

І падумаць: адна папка ў адным купэ! А колькі такіх купэ ў вагоне! А колькі такіх вагонаў! А колькі паяздоў ездзіць па краіне! А колькі дзён у месяцы! А колькі... такое выдатнае творчасці прападае. Каб нейкі альбарутэнны альманах, літаратурны!

**Адам Маньяк**

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, каб быць з табою шчырай, скажу адразу: мне гэты чалавек заімпанаваў сваёй эрудыцыяй, ласкай і прыгажосцю. Вядома, было пачуцце, але крыху мне падабалася і тое, што буду жыць у вялікім горадзе, а не стаяць у буфеце вясковай сталоўкі, куды ён зайшоў, каб паесці, будучы ў камандзіроўцы.

А ён закахаўся як шалёны. Парваў усялякія адносіны з ранейшай каханкай, якая доўга яшчэ не давала нам жыць. Адно перашкаджала: мне было дваццаць восем гадоў, а яму — сорак дзевяць. Быў ён, такім чынам, на дваццаць адзін год старэйшы за мяне, і мама сказала: „Мае ты дзетка, у яго ж ужо дзеці вялікія!". Мой каханы быў ужо сем гадоў удаўцом і адзін выхоўваў дзяцей.

Пра тое, што трэба будзе даглядаць дзяцей, я не думала. Проста не брала гэтага пад увагу. Адна дачка зараз выйдзе замуж, а другая будзе блытацца пакуль што. Ужо ж ёй чатырнаццаць будзе.

Выходзячы замуж за ўдаўца і старэйшага чалавека, я не прадбачыла аднаго: таго менавіта, што мой муж будзе дзяліць сваё каханне паміж мною і дзецьмі. Я, хаця была замужняя, дзяцей не мела і не ўяўляю сабе, што можна аж так іх кахаць, як кахаў іх ён.

Старэйшая дачка майго мужа хутка выйшла замуж, засталася малодшая, ды яшчэ была маці. Я душылася ў гэтай атмасферы, хаця жыла ў горадзе, пра які столькі марыла. Муж, замест таго, каб не адыходзіць ад мяне, то падсоўваў ладны кавалак дачцэ, то намазваў маслам бутэрброды сваёй матулі. Мне гэта было як нажом па сэрцы. Я пачынала іх ненавідзець. Мала-памалу я пачала лічыць іх сваімі ворагамі, хаця бачыла, што малая горнецца да мяне. Нават у злосці я сказала ім, каб пасцельную бялізну кожная мыла сама сабе.

Не ведаю, ці слушна, але я лічыла, што мужава каханне можа датычыцца толькі маёй асобы. Ну, не магла я дзяліцца каханнем майго мужа з нікім.

А пасля неяк усё абрыдла, і муж ужо стаў, здавалася, нямілы. Навокал жа столькі статных мужчын. Горад вялікі, гэта табе не вёска. То адзін на мяне зыркне, то другі камплімент скажа. На адзін тыдзень я нават адышла ад мужа, наняўшы пакойчык. Не буду граху таіць: не была я там адна. Дахаты вярнулася праз тыдзень, а муж прыняў мяне без слова. Божа, што я зрабіла...

Муж так пераняўся маім учынкам, што праз год памёр. А мо і не з-за гэтага, але яго не стала. І толькі цяпер, калі я засталася адна, я зразумела, якая пустка паявілася ў маёй душы. Цяпер толькі яго дзеці, маленькія крышынкі майго мужа, з'яўляюцца для мяне адзінай радасцю. Шкада, што раз'ехаліся яны па розных мясцінах, але чакаю ад іх вестачкі, як збаўлення.

Чалавек малады — дурны. Ніколі не думала я, што той, каго лічыла я сваім ворагам, стане мне такі блізкі. І толькі цяпер я зразумела, як глыбока я кахала свайго мужа. Усё па часе...

**Геня**

Геня! Сапраўды, многае мы пачынаем разумець па часе, тады, калі на ўсё ўжо позна. Я думаю, што ты не першая і не апошняя. Часамі людзям здаецца, што ўсё нам дадзена на вечнасць. Што вечна будзем шчаслівыя і прыгожыя, а ўсё, што кепскае — не нам. Што ўсе блізкія будуць жыць вечна, а асабліва мама і тата, а мы заўсёды застанемся дзецьмі.

Не варта марнаваць час на злосць, лепш выкарыстаць яго на каханне.

**Сэрцайка**